**Генрых Далідовіч**

# БНР і БССР

*Роздум аб пакутным шляху беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі*

Мінск
Пейто
2002

УДК 94(476)
ББК 63.3(4Беи) Д15

**Далідовіч Г.**

БНР і БССР: Роздум аб пакутным шляху беларускай дзяржаўнасці ў XX ст./Генрых Далідовіч.— Мн.: Пейто, 2002.— 64с.

ISBN 985-6024-41-2

Аўтар на падставе вывучэння дакументальных матэрыялаў выказвае свае адносіны да працэсу станаўлення інстытутаў дзяржаўнасці беларусаў на пачатку XX стагоддзя. БНР і БССР падаюцца ім як лагічныя паслядоўнасці, як вянец намаганняў беларусаў на шляху да незалежнасці ва ўмовах палітычнага ўціску.

Кніга напісана майстрам беларускага слова, яна багатая на імёны і факты і будзе цікавая шырокаму колу чытачоў.

УДК 94(476)
ББК 63.3(4Беи)

ISBN 985-6024-41-2

## Ад выдаўца

*Гэты рукапіс яшчэ не быў надрукаваны, а яго ўжо чакалі выпрабаванні. Слынны беларускі пісьменнік і сябра нашага выдавецтва Генрых Далідовіч паведаміў неяк, што напісаў эсэ пра падзеі 1917-1919 гадоў. "Я аддаў яго для друкавання ў часопіс "Полымя",— зазначыў ён і дадаў, — Сяргей Законнікаў абяцаў з цягам часу надрукаваць яго ў адным з нумароў. Пасля, мажліва, і "Пейто" магло б выдаць твор асобнай кніжачкай".*

*Мы парадаваліся такой перспектыве і атрымалі рукапіс для азнаямлення. Выдатная мова, а галоўнае, на нашу думку, праўдзівае асвятленне падзей у ім уразілі і мы пачалі прыспешваць аўтара каб нейкім чынам ён паскорыў працэс выхаду твора ў "Полымі". "Нічога не атрымліваецца, раней восені не будзе, — расчаравана адказаў той. "Зрэшты, відаць, Сяргей хутка там не будзе.., — і са згоды палымянцаў забраўшы праз колькі дзён рукапіс з часопіса сказаў нам, — Глядзіце!"*

*Мы прыступілі да працы не агаварыўшы нават умоў супрацоўніцтва, не вызначыўшы аўтару ганарара, але было відаць, што ён не надта бянтэжыўся ад такога павароту справы.*

*Што думаў, што прыкідваў у галаве галоўны рэдактар маладзёжнага часопіса — не вядома. Выдатны знаўца псіхалогіі людзей, ён, відаць, нешта прадчуваў. Неўзабаве і сапраўды пачаліся сумныя падзеі ў гісторыі беларускай літаратуры. 25 красавіка 2002 года ў "Маладосці" яе новыя кіраўнікі аб’явілі што Генрыху Далідовічу не месца ў "Маладосці"...*

*Вось з такой прадгісторыі і з Божага благаслаўлення "БНР і БССР" і пачынае свой шлях да чытача.*

*29 красавіка 2002*

85-ГОДДЗЮ УСЕБЕЛАРУСКАГА
З'ЕЗДА ПРЫСВЯЧАЮ

Замест прадмовы

Сёння ўжо нібыта даўняе мінулае такія перыяды нашай гісторыі, як і БНР, і БССР. Але...

Тут, у нас, Беларуская Народная Рэспубліка народзілася зусім мала, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка савецілася значка больш, да фармальнага альбо юрыдычнага распаду СССР у 1991 годзе, хоць, здаецца, у многім — толькі ў падпраўленым выглядзе, пад уплывам знешніх фактараў — існуе яшчэ і цяпер. Гаворка ідзе не толькі пра былыя сімвалы, назвы, помнікі, якія спрэс на кожным кроку. Хіба, можа, толькі дзеці ўжо не зусім савецкія, дык ім прыйдзецца ў будучыні вызначаць наша аблічча. Зразумела, з вялікім спазненнем у параўнанні з нашымі суседзямі.

Пра перыпетыі ўтварэння БНР і БССР напісана нямала. За межамі Беларусі і тут, у нас. Літаральна да 1990-х гадоў, бадай, усё гэтае мела супрацьборны характар: адны нападалі на адных, у некаторым сэнсе — свае ж на сваіх. Асаблівай заўзятасцю, фальсіфікацыяй, варожасцю вызначаліся нашы, савецкія, ідэолагі і іхняя абслуга многія так званыя вучоныя-гісторыкі. Тых, хто жадаў пісаць пра тое сумленна, можно пералічыць на пальцах, а тых, хто хоць у падтэксце рабіў гэта, — на пальцах адной рукі.

У 1980-1995 гадах і я — у прозе — далучыўся да даследчыкаў часу ўтварэння БНР і БССР, выклаў сваю версію ўраманах "Гаспадар-камень", "Пабуджаныя" і "Свой дом". На аснове асэнсавання амаль усяго надрукаванага і ў нас, і ў Заходняй Беларусі, і за мяжой (меў такі-сякі доступ і да спецсховішчаў), у сілу сваіх здольнасцяў і, на вялікі жаль, часамі хаваючыся за псеўданімы герояў, заблытваючы іхнія біяграфіі і г.д., каб надрукаваць творы не толькі ў белых і чорных, а ў шматколерных фарбах, не ганьбіць шчырых і высакародных, не ўзвышаць непрыяцеляў. За апошняе дзесяцігоддзе з'явілася шмат новых і, галоўнае, ужо спакойных, разважлівых, слушных даследаванняў, самых розных публікацый раней нам невядомага ці знанага мала, дык, мабыць, агульная карціна таго былога праяснілася і ўжо ацэнена больш-менш справядліва і дакладна. Але хоць у агульных рысах вядома шырокаму колу нашай грамадскасці пра аднаўленне нашай дзяржаўнасці на пачатку XX стагоддзя? Пра нюансы, нават зігзагі гэтай справы? Пра лёс яе натхніцеляў, стваральнікаў і сапраўдных непрыхільнікаў, а то і ворагаў? Урэшце, пра тое, каго мы ўжо калі не бэсцім, то замоўчваем, а каго па-ранейшаму ўшаноўваем?

Ні ў якім выпадку не пасягаю на думку ў апошняй інстанцыі, як не варта прэтэндаваць на гэта і іншым, проста хочацца сказаць сваё слова, слова чалавека, грамадзяніна, які пра вышэйзгаданае нямала чытаў, думаў-разважаў, пісаў і каго ўсё тое зноў хвалюе, не дае спакою.

## Слова першае. 1917 год

1917-ы — пераломны і лёсавызначальны. Падзеі, што выбухнулі тады ў Расійскай імперыі, абумовіла першая сусветная вайна. У бойню ўцягнулі каля 40 краін з 1,5 мільярда насельнікаў і, канечне ж, не з-за нейкага аў- стрыйскага прынца Фердынанда, каго пазбавіў жыцця серб-студэнт Прынцып. Мільёны маладых і здаровых мужчын пасылалі ваяваць, гніць у акопах, калечыцца, гінуць "за веру, цара, караля, імператара, прэзідэнта, кайзера і г.д.) і Айчыну", а на самай справе — па-новаму перадзельваць свет, багатых і вяршыцеляў людскіх лёсаў рабіць яшчэ багацейшымі і больш уладнымі.

Як і раней з удзелам Расіі ў войнах з Вялікім Княствам Літоўскім, з Рэччу Паспалітай, са шведамі, французам! і іншымі, нашаму краю зноў "пашанцавала": са жніўня 1915 года ён стаў арэнай баёў велізарных германскай і расійскай армій.

Кайзераўцы акупавалі чвэрць беларускіх зямель, фабрыкі і заводы разбуралі, абсталяванне і моладзь вывозілі ў Германію, спалілі ці разабралі больш за 140 тысяч будынкаў, у тым ліку шмат помнікаў гісторыі і культуры, рабавалі сялянскія хлявы і гумны. Царскія дывізіі таксама прынеслі не дабрабыт: збывалі ўглыб імперыі прадпрыемствы, навучальныя ўстановы, абіралі сялян для патрэб звыш 2 мільёнаў салдат і афіцэраў Заходняга і Паўночнага франтоў. Наш край да ўсяго панёс і іншыя агромністыя людскія страты (яшчэ да вайны не адну сотню тысяч люду спакусілі з'е- хаць у Сібір, у вайну не адну сотню тысяч змусілі падацца ў бежанцы, апрануць вайсковую форму). Не выпадкова, што ў 1914-1917 гадах, лічы, не было каму абрабляць зямлю, сеяць і садзіць, дагледжвалася толькі чвэрць палёў, мелі крыху больш трэці збожжа з таго, што збіралі раней.

Яшчэ воблік краю змянілі прыезджыя з цэнтральных губерняў — мноства рабочых і чыноўнікаў; сюды, як аваднёў у спякоту, наляцела процьма "патриотов", а таксама канспіратараў-падпольшчыкаў. Ніхто з іх не зважаў і не думаў клапаціцца пра гаротны наш народ, які апынуўся на мяжы духоўнага і фізічнага вынішчэння, наезджыя трымалі ў полі зроку расійскую армію: адны — каб з ёю дабіцца перамогі для Расійскай імперыі, іншыя — каб з ёю Расійскую імперыю разгайдаць, падарваць знутры (з апошніх у розны час па заданні прыбылі Ландар, Любімаў, Кнорын, Фрунзе, Позерн, Берсан, Алібегаў, Крывашэін і інш.).

Для таго, каб скалануць калі не ўсю Расійскую імперыю, то хоць бы яе цэнтр, патрэбна было "маленькое, но очень серьезное дельце".

Знайшлі. Шматгадовая вайна з нястачай і смерцю пачала надакучваць простаму народу, салдатам, пазбаўляць пакланенне "вере, царю и Отечеству", дык вось менавіта ў адным з сэрцаў імперыі, у Петраградзе, як пазней стала вядома, пачалі прыхоўваць, нават марнаваць за горадам муку і мяса, змушаць жанок і дзяцей суткамі пакутаваць у чэргах. Гаспадыні забунтавалі, тут як тут заявіліся агітатары, хлебны бунт перавялі ў палітычны, узбудзілі рабочых і салдат — у Петраградзе ўспыхнула лютаўская рэвалюцыя. Цар занепакоіўся, але цяпер ужо не асмеліўся праліць кроў, ды значна большую, чым у 1905-м, папрасіў падтрымкі ў камандуючых усіх франтоў. Надзейнай помачы ніхто яму не паабяцаў, і Мікалай II над націскам асобных думцаў палічыў выйсцем з сітуацыі сваю адмову ад трона, які перадаваў брату. Але той не захацеў штыкамі змагацца за высокі пасад.

Царызм паў; у Петраградзе публічна і закулісна пачала фармавацца новая ўлада. У Мінску, здавалася, усё па-ранейшаму ціха; камандуючы фронтам і ўладныя цывільныя чакалі "распоряжений", але на самай справе ўсё было іначай: на паверхню вынырнулі затоеныя дасюль сілы. Яны пачалі браць Мінск у свае чэпкія рукі.

Тут варта нагадаць прарочыя перасцярогі Ф. Дастаеўскага пра небяспеку змены ўлады рэвалюцыйным шляхам. Ён папярэджваў: у час пераломных, гвалтоўных змен разгубліваюцца кансерватыўныя і сумленныя, наперад выскокваюць не толькі ідэалісты, а найперш фанатыкі, авантурысты, хціўцы, розныя нячаеўцы, якія намагаюцца ў зручныя, як мага карацейшыя часіны ўсеагульнага аняменння імгненна дабіцца жаданай мэты — улады і захопу чужога багацця. Для такіх сіл нават у першыя хвіліны лютаўскай рэвалюцыі займелася спрыяльная магчымасць яшчэ і ў тым, што было за што нападаць на царызм з яго прагнілым чыноўніцкім і жорсткім карным апаратам, за "тюрьму народов". А тут яшчэ — зацягненая вайна, зручная магчымасць паспекуляваць на народным горы.

Дык вось з затоеных сіл на самым пачатку лютаўскай рэвалюцыі ў Мінску нечакана, нібы з-пад зямлі, заявіўся новы, рэвалюцыйны лідэр. Земскі служачы Міхайлаў. Яшчэ малады, гадоў трыццаці, каржакаваты, сімпатычны, вясёлы і таварыскі. Ен трапіў у наш край, у ціхае мястэчка Івянец, у красавіку 1916 вольнанаёмным у артылерыйскую часць, затым неяк вельмі ж хутка і ўдала перавёўся ў Мінск. Чаму "вельмі ж хутка і ўдала?" Ды таму, што царская ахранка і ваенная контрразведка не зацікавілася: а хто гэты невядомы Міхайлаў? А каб паднялі яго дасье, то аж за галаву схапіліся б: ды гэта ж той, хто нарадзіўся ў Пішпеку, скончыў гімназію, у 1904-м паступіў у Пецярбургскі політэхнічны інстытут, з таго ж года і член бальшавіцкай

партыі. За ўдзел у студэнцкіх і рабочых "антиправительственных" гуртках выключаны з інстытута, ладзіў у Іванава-Вазнясенску забастоўкі, адпрацоўваў тактыку стварэння Саветаў, падрыхтоўваў штурмавікоў і баевікоў, якіх у 1905-м прывёў на паўстанне ў Маскву, абвінавачваўся ў забойстве паліцэйскага. Арыштоўваўся, двойчы прысуджаўся да пакарання смерцю як "государственный преступник", восем гадоў правёў у турмах і на катарзе, адкуль уцёк, і вось ужо тут — спачатку на фронце, а затым у земстве. Так, гэта быў спрактыкаваны агітатар і баявік, чалавек з жалезнай хваткай — Фрунзе. Фрунзе са штурмавікамі не стаў вычэкваць ні хвіліны "новых распоряжений", а адразу ж пачаў распраўляцца "со старым режимом" у Мінску: абяззбройвалі, знявольвалі разгубленых гарадавых, займалі паліцэйскія ўчасткі, жандарскае і ахоўнае аддзяленні, нават больш чым смела арыштавалі губернатара: армейскія патрулі, мінчукі-разявакі глядзелі на ўсё гэта з пацешкай, паколькі недалюблівалі "апору" царызму. Старшыня Мінскай губернскай земскай управы Самойленка спрабаваў суцішыць калегу па земстве, заклікаць да "законности", але для ахмялелых ад поспеху фрунзенцаў гэта было пустое слова. У рэвалюцыі адзін закон, гаварыў Бухарын, пераможа той, хто каму першы праломіць чэрап.

Маючы вопыт і спрыт, Фрунзе і аднадумцы ў лічаныя дні борзда ўтварылі Мінскі Савет (апроч бальшавікоў туды трапілі меншавікі і бундаўцы). У выканкаме гэтага Савета не знойдзецца месца ***ніводнаму беларускаму дзеячу, увогуле беларусу***. Але тым не менш Мінскі Савет будзе дзейнічаць "от имени народа". Калі сюды, у Мінск, прыедуць ваенны і марскі міністр Гучкоў і член Дзярждумы Шчэпкін, каб вайскоўцам і ўладным цывільным расказаць пра палітыку новых петраг- радскіх уладаў, пазнаёміць з іхнімі першымі дакументамі, то ўжо на сустрэчы ў гарадекім тэатры Фрунзе крыху раскрыецца ў сваёй прамове, але яго ўсё роўна прызначаць начальнікам мінскай міліцыі. Пазней вышэйзгаданы Самойленка будзе ў роспачы хапацца за галаву: "Как же он (Шчэпкін), будучи здесь в первые дни революции, мог участвовать в этой "складчине", которая подарила нашему городу в начальники милиции г.Фрунзе (Михайлова)?".

Фрунзе, спрытна скарыстаўшы сітуацыю, памагае ўтвараць Мінскую аб'яднаную арганізацыю РСДРП, рыхтаваць першыя з'езды ваенных і рабочых дэпутатаў арміі і тылу Заходняга фронта, сялянскі з'езд Мінскай і Віленскай губерняў. Нават сёння цяжка ўявіць, як яму ўсё гэта ўдавалася? Чаму так калі не патуралі, то не змянілі генералы, цывільныя ўладцы? У іх жа пад носам спакушалі, зводзілі армію, рабочы люд! Ці баяліся апошніх, міжволі саступалі новым дырыжорам,

яшчэ не ведаючы, што гэта за асобы? У гэтым сэнсе газета "Правда" за 15 сакавіка 1917 года, сапраўды, не магла не без адкрытай радасці напісаць: "*Переворот* (тут і далей падкрэслена мною. — Г.Д.) в Минске прошел *быстро и безболезненно*. Минск принял всё готовое. Наиболее туго воспринимала происшедшее высшая военная среда, но и ей пришлось быстро и предупредительно заявить себя сторонницей новой власти..."

Генералы разгубіліся, вычэквалі і гэтым самым яшчэ больш ініцыятывы аддалі ў рукі Фрунзе і ягоных памагатым. Гэтыя на першым з'ездзе ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронта 7-17(20-30) красавіка 1917-га, іграючы на пачуццях салдацкіх і рабочых мае, на іхнім суме па доме і сям'і, не толькі ў значнай меры авалодалі настроем маладасведчанага люду, але і хітра ды паспяхова пасварылі салдат і рабочых з афіцэрамі ды генераламі, падаўшы апошніх як рэакцыянераў-старарэжымнікаў, тых, хто абараняе інтарэсы буржуазіі і супраць народнага шчасця. Гэта яшчэ больш ад дал і ла генералітэт ад арміі, засцерагло, каб яна, армія, па загадзе зверху цяпер і пазней не рушыла на Петраград, на "новую народную власть". Энергіі, поспеху прапаганды, што часамі была звычайным папулізмам, дэмагогіі, і далей праяўленым Фрунзе нельга не здзіўляцца: ён павёў рэй і на першым з'ездзе сялянскіх дэпутатаў Заходняга фронта (салдат-сялян), дзе, дарэчы, было шмат эсэраў, якія лічылі сябе выказнікамі сялянскіх дум. Можа, удачліва спрацавала і тое, што Фрунзе пачалі ствараць славу новага чалавека, лідэра, народнага героя, барацьбіта за свет лае будучае. Сяляне, у тым ліку і беларусы, эсэры згадзіліся з яго рэзалюцыямі, што яны супраць аўтаноміі Беларусі і супраць увядзення беларускай мовы ў школах. Болей за тое — нібы аслеплыя, абяруць яго на чале выканаўчага камітэта сялянскіх дэпутатаў і дадуць права ад імя беларускіх сялян (лічы, усяго народа, да якога яго занёс вецер з год таму), выступаць на Усерасійскім сялянскім з'ездзе. Аморфныя Мінск і правінцыя працягвалі прымаць "всё готовое". "Переворот" замацоўваўся нібыта законна, "быстро" і "безболезненно!"

На майскім Усерасійскім сялянскім з'ездзе (Ленін, вярнуўшыся ў Расію, ужо даў указанне бальшавікам выйсці з "аб'яднанак" і ўзяць курс на самаасобны захоп улады) Фрунзе выступіў ад імя нашых сялян, заклікаў адхіліць ад улады Часовы ўрад і даць паўнамоцтвы Усерасійскаму Савету. Галасавалі за — 17, супраць — 800. Значыць, тут "белорусский эксперимент" не прайшоў, чым Беларусі далі аплявуху за тое, што яна фактычна свой лес неабачліва ўручае выпадковаму

люду, які перш-наперш займаецца палітыканствам, дабіваецца сваіх мэт.

Пра аморфнасць нашых сялян гаварылася ўжо. А што ўласна "шчырыя", "свядомыя?"

На пачатку артыкула спецыяльна падкрэслівалася цяжкая сітуацыя, што напаткалася з першай сусветнай вайною. Варта дадаць і тое, што царскі ўрад пільна сачыў за развіццём нацыянальнай свядомасці беларусаў, найбольш адукаваных і па-сапраўднаму патрыятычна настроеных проста прыбраў з Беларусі: хтосьці з іх пакутаваў на сібірскай катарзе (Лёсік, Гарун), некаторыя былі параскіданыя па расійскіх прасторах (Зм.Жылуновіч, А.Чарвякоў, Б.Тарашкевіч), хтосьці гібеў у акопах (Я.Купала, Я.Колас), а хтосьці застаўся ў акупаванай немцамі Вільні (браты Луцкевічы, В.Ластоўскі, і яны, апошнія, дарэчы, рабілі там шмат для беларускай справы, у тым ліку і прыцягвалі ўвагу Еўропы да такога цяжкога лёсу беларускага народа). І яшчэ. Як бачылі вышэй, тады, у 1917-м, даволі ціхі губернскі Мінск раптам ажывіўся, на яго пачалі глядзець з цікавасцю, бо ён (лепш сказаць, царскі генералітэт у ім, як і ў Магілёве) мог рашыць лёс рускай рэвалюцыі ў той ці іншы бок. Пакуль што, як казалі, тут удала дзейнічалі бальшавікі, якія рэвалюцыйны працэс спажывалі на сваю карысць. Паўторым, на сваё сённяшняе і буду чае.

Нават з рэвалюцыяй у тым жа Мінску беларуская справа проста не магла падаць свой голас дружна, рэзка і моцна. Да вышэйпёрапічаных абставін у ім у час першай сусветнай вайны варта дадаць і яшчэ адну немалаважную акалічнасць — нацыянальны склад горада. Імперская палітыка склалася так, што, скажам, перапіс 1897 года выявіў, што ў тагачасным Мінску было недзе каля 80 тысяч насельнікаў, з іх каля 50 тысяч яўрэяў, звыш 15 тысяч рускіх, звыш 10 тысяч палякаў і ўсяго каля 9 тысяч беларусаў, у асноўным у ролі "обслуги". Найбольшая доля беларусаў была ў Магілеве, каля 30 працэнтаў. Значыць, асноўная беларуская маса была ў вёсцы, яшчэ раз скажам, знясіленай эміграцыяй, бежанствам, вайсковымі наборамі, дзвюма агромністымі ваеннымі армадамі, а да ўсяго, як і многія вёскі ў свеце, кансерватыўнай па характары.

У Мінску тады дзейнічалі культурна-асветны цэнтр "Беларуская хатка", Таварыства помачы ахвярам вайны, дзе жменька прыстойных, але небагатых інтэлігентаў (пісьменнікі Ядвігін Ш., Зм.Бядуля, А.Паўловіч, Ф.Шантыр, артысты У.Галубок і У.Фальскі, асветніца З.Верас з сем'ямі, а ў 1916-17 гадах і паэт М.Багдаіювіч), як маглі, памагалі сіротам, абяздоленым кавалкам хлеба і цяплом роднага слова. Каб пайсці ў палітыку, у іх не было не толькі сродкаў, але ні вопыту

шматгадовай падпольнай работы, ні сувязяў ды загадзя падрыхтаваных баевікоў, тым больш, што ва ўспомненай сітуацыі ўласна беларускія клопаты не цікавілі ні вайсковыя і цывільныя ўлады, ні партыйныя групоўкі. Але паколькі новая ўлада побач з амністыяй палітвязнем і рознымі свабодамі абвясціла і "отмену всех сословных, вероисповедальных и национальных ограничений", то не мог не загучаць і беларускі гол ас. Беларускіх дзеячаў у новыя органы ўлады не дапускалі, але ім з ухмылкай часамі давалі слова на розных сходах — гаварыце, выяўляйцеся, — і тут жа выступоўцаў абсмейвалі, абражалі, абвінавачвалі ў самых розных "антинародных" грахах. Сцягнуць у такіх умовах надмагільную пліту з усяго беларускага было надзвычай цяжка. "Не было, няма і не будзе ніякай Беларусі!" Дык і не блытайцеся пад нагамі! Не май і далей свайго дома, быў, ёсць і далей будзь нечая рабсіла! Як тая ж жывёла, вол альбо конь!

Ды ўсё ж нават пры нешматлікай сіле "шчырых" і "свядомых" не ўдалося "быстро" і "безболезненно" пахаваць "белорусский вопрос", не ўсе ўбачылі ў гэтым ужо "готовое". Наадварот, пачало пашырацца кола тых, хто зажадаў самім вырашаць свой лес, дбаць пра адраджэнне гістарычнай памяці, дзяржаўнасці, мовы і культуры. Паўсталі беларускія сілы ў Петраградзе (ужо ў красавіку там было болей за 1000 сяброў БСГ — Беларускай сацыялістычнай грамады) і ў іншых гарадах, на франтах, вярнуліся са ссылак ветэраны беларускага руху. Апошнія хутка адрадзілі ў Мінску камітэт БСГ і нечакана для многіх праявілі аператыўныя арганізацыйныя здольнасці — 25.3(7.4) 1917- га склікалі даволі прадстаўнічы з'езд беларускіх дзеячаў (каля 150 дэлегатаў), ход якога ўзялі ў свае рукі Зм. Жылуновіч, А. Гарун, Б. Тарашкевіч, А. Бурбіс і іншыя вядомыя людзі. На гэты з'езд мусілі прыйсці і запрошаныя ад новых улад і партый, усе яны мелі слова, але некаторыя з іх выступілі альбо з нафталінна-шавіністычнымі, альбо з антыбеларускімі прамовамі, у тым ліку і супраць увядзення беларускай мовы ў школах. Адпаведна, на з'ездзе не маглі не закіпець страсці, была правакацыйная спроба сарваць яго, ды ўсё ж працавалі розныя камісіі, былі прынятыя рэзалюцыі. Праўда, апошнія былі сціплыя: аўтаномія ў складзе Расійскай федэратыўнай рэспублікі, адкрыццё беларускага ўніверсітэта, пераход навучання ў пачатковых школах на родную мову і г.д. Але і супраць гэтага той жа Фрунзе з аднадумцамі, якія ўжо адчулі смак улады, а з імі і іншыя паднялі сапраўдны вэрхал, нахабна ўжываючы дэмагогію, фальш, абразы і абвінавачванні, скажам, за тое, што на чале ўтворанага БНК — Беларускага нацыянальнага камітэта — абралі чалавека, які меў навыкі дзяржаўнага кіравання, сувязі ў Петраградзе, дэпутата 1-й Дзярждумы, землеўласніка Р. Скірмунта:

"помещицья, буржуазная интрига", "польские происки", "контрреволюция!". Супрацьстаяць шквалу атак з усіх бакоў, вераломнай лексіцы, папулярным тады прысудам было вельмі нялёгка. Ды трэба было шукаць нейкае выйсце. Не знайшоўшы шырокай дапамогі ў родным Мінску, беларускія дзеячы падаліся з "челобитной" — слязніцаю — у Петраград, да новай улады, што публічна, высакамоўна аб'явіла "отмену национальных ограничений". Керанскі беларускую дэлегацыю не прыняў, а новыя міністры сустрэлі холадна, іх зусім не ўсцешыла яшчэ такая і беларуская ўвішнасць: ім паддалі ўжо клопатаў фінляндскі, польскі, літоўскі і ўкраінскі "вопросы". Пачуўшы штосьці неакрэсленае, туманнае, беларускія дзеячы яшчэ і яшчэ раз пераканаліся: трэба не столькі спадзявацца на "добрага дзядзьку", колькі самім дбаць пра сябе.

З падачы фрунзенцаў на тыя з'езд, БНК у БССР навешвалі самыя розныя ярлыкі да самага апошняга часу, толькі ў 1995-м у энцыклапедычным даведніку "Беларусь" (галоўны рэдактар Б.Сачанка) ім далі спакойную і справядлівую ацэнку, прызнаўшы, што яны мелі станоўчае значэнне для фармавання беларускай нацыянальнай свядомасці і дзяржаўнасці. Апошняму, безумоўна, паспрыяла яшчэ і тое, што тады ў Мінску пачало працаваць Першае таварыства беларускай драмы і камедыі (кіраўнік Ф.Ждановіч, 24 красавіка ў гарадскім тэатры паставілі "Паўлінку"), з'явіліся газеты "Вольная Беларусь" — орган БНК, "Грамада" — орган БСГ (з-за правакацый і рознагалоссяў гэтая партыя ледзь не развалілася, але ў чэрвені на канферэнцыі ў Петраградзе захавалася, абрала свой ЦК на чале з Зм.Жылуновічам). З'яўленне свайго друку памагло прапагандаваць гісторыю і культуру, нацыянальныя і дзяржаўныя ідэі, весці палеміку з апанентамі і ворагамі беларушчыны. У выніку паволі, але ўпэўнена мацнелі беларускія сілы (да канца лета ў іхніх шэрагах налічвалася болей як 25 тысяч свядомых асоб, здаецца, 23-х палітычных накірункаў), але расло і заўзятае сутхраціўленне ім. Часовы ўрад ужо мусіў канкрэтней звярнуць увагу на нацыянальнае пытанне, але пакуль што толькі на даволі бурнае фінляндскае, польскае, украінскае і літоўскае, на яго думку, самыя вострыя, з моцнымі незалежніцкімі тэндэнцыямі, Беларусь па-ранейшаму яго непакоіла не столькі як такая, колькі найперш як месца супрацьстаяння германскай і расійскай армій; асмакаваныя ўладай, прагныя да новых поспехаў фрунзенцы не дапускалі і думкі нават пра супрацоўніцтва, рабілі ўсё магчымае і немагчымае, каб замацаваць надмагільную пліту на беларускасці, дзеля чаго не грэбавалі ніякімі сродкамі, каб абылгаць, дарэшты знішчыць яе, за што беларускія дзеячы папікалі іх у працягу

антынацыянальнай палітыкі царызму, клікалі на трацейекі суд; а тут яшчэ польскія сілы на чале з Доўбар-Мусніцкім і іншымі, якім Часовы ўрад дазволіў утварыць на нашых землях польскае войска і многія з якіх пачалі патрабаваць не проста аднаўлення польскай дзяржаўнасці, але адраджэння Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, дзе, зразумела, літоўцы, беларусы і частка ўкраінцаў бачыліся як іхнія падуладныя, а землі апошніх — як польскія абшары, "крэсы". Гэтыя, на вялікі жаль, шавіністычныя заявы прадстаўнікоў таксама прыгнечанага царызмам народа не маглі не занепакоіць: некаторыя з афіцэраў, генералаў-беларусаў, хто служыў у царскай арміі, ваяваў і цяпер адчуў сябе беларусам, таксама пачалі для падмацунку ствараць свае баявыя сілы (полк у Мінску, эскадрон пад Оршай і інш.). І іх, вайскоўцаў, за гэта тады і пазней асуджалі, але хіба самыя свядомыя, разважлівыя, клопатныя з іх за будучыню сваіх дзяцей і ўнукаў не мелі рацыю, калі лічылі, што і ім трэба абараняцца не толькі ўпраслівым словам?! Лічыліся, лічацца і будуць лічыцца і з духоўнай, і з фізічнай моцаю!

Калі стрымаўшы ў Петраградзе бальшавіцка-меншавіцкія Саветы, прыйшоў да адзінаўладдзя Часовы ўрад (некаторыя меншавікі засупрацоўнічалі з ім) і пачаў шырока дэкларавāць, што будучыня ўсёй былой царскай Расіі будзе вырашацца на хуткім Устаноўчым сходзе, на які будуць абраныя прадстаўнікі ўсіх нацый, нацыянальных меншасцяў, палітычных партый і г.д., то ў Мінску беларускія дзеячы ўспрынялі гэта з надзеяй — калі не ўсе, то многія: усклалі спадзяванне на парламент і законнасць, чаго сродкамі Дзярждумы дагэтуль у Расійскай імперыі дабівацца не вельмі выпадала, бо часамі дэпутаты-палемісты ператваралі парламентарызм у агітацыйна-дыскусійны клуб прапаганды сваіх поглядаў, з-за чаго цар, бывала, і распускаў Дзяржддуму. Каб удакладніць сваю пазіцыю, беларускія дзеячы ўлетку склікалі свой другі з'езд, якім таксама кіравала БСГ: левае крыло нашых землякоў (Зм.Жылуновіч з Петраграда, А. Бурбіс з Масквы), правае (Лёсік і іншыя мінчукі). Былі на з'ездзе і пасланцы ўсіх нацыянальных партый і многіх усерасійскіх. Як і раней, не абышлося без спрэчак, у асноўным па вызначэнні статуса Беларусі. Зусім нечакана саюзнікам стаў адзін з вядомых эсэраў, заявіўшы, што ім і беларускім дзечам тут замінае бальшавік Міхайлаў-Фрунзе, і заклікаў сумесна змагацца супраць таго. Урэшце прыйшлі да згоды, адхілілі ад кіраўніцтва Скірмунта і абралі Цэнтральную раду беларускіх арганізацый. І, трэба сказаць, своечасова (тлумачэнне крыху пазней). На 2-й сесіі гэтай Рады, 28.10-6.11, будзе ўтвораная Вялікая беларуская рада, якая пацвердзіць ідэі аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай федэрацыі, развіцця нацыянальнай мовы і культуры, разам з Цэнтральнай беларускай вайсковай радай будзе

весці работу па стварэнні беларускага нацыянальнага войска, а пазней будзе рыхтаваць снежаньскі з'езд.

Часовы ўрад вырашыў працягваць вайну да "победного конца", для чаго адмяніў многія свае ж дэклараваныя "свабоды": увёў на франтах смяротную кару за "дезертирство" і "предательство", загадаў ваеннаму міністру і міністру ўнутраных спраў закрываць усе малыя, вялікія сходы і з'езды (18 ліпеня выдалі нават "Манифест о роспуске финляндского сейма"). Прыціхлыя генералы павесялелі, а Карнілаў зажадаў стаць ваенным дыктатарам Расійскай імперыі, дык ужо прыйшлося мабілізоўваць агульныя сілы супраць яго.

Ды мы — пра Мінск і Фрунзе. Увосень бальшавіцкі цэнтр адкліча яго з нашага краю для іншай дзейнасці. І трэба сказаць, пазней, у грамадзянскую вайну, ён, Фрунзе, вызначыцца яшчэ больш. Кемнасцю, загартаванасцю ў дыскусіях, ваеннымі здольнасцямі і неверагоднай жорсткасцю (было, што па яго загадзе палонных белых афіцэраў вывозілі ў мора і тапілі жывымі). Пасля адстаўкі Троцкага ён узначаліць Чырвоную Армію, выб'ецца ў вышэйшую савецка-бальшавіцкую эліту, ягоны голас будзе нямала значыць — адпаведна, ён стане небяспечны для кіруючых вярхоў, і яго без ніякай патрэбы пакладуць на аперацыйны стол і загубяць (крыху пазней нібыта ў аўтамабільнай катастрофе загіне Мяснікоў). З-за таго, што яшчэ маладога, поўнага энергіі і сіл Фрунзе подла знішчылі, яго па-чалавечаму шкада, але ўсё роўна прыкра, што і ягоным іменем не толькі названая вуліца ў Мінску, але менавіта на ёй знаходзіцца наш Дом літаратара. Справа тут не толькі ў тым, што ў пераломным, цяжкім, а ў нечым і спрыяльным 1917-м Міхайлаў-Фрунзе не даваў падняць галавы беларускаму ў Беларусі ("И что за диво?., издалека, Подобный сотням беглецов, На ловлю счастья и чинов Заброшен к нам по воле рока; Смеясь, он дерзко презирал Земли чужой язык и нравы; Не мог щадить он нашей славы; Не мог понять в сей миг кровавый, На что он руку поднимал!..", а ў тым, што ён надоўга, па сённяшні дзень, заклаў традыцыю ўсё нацыянальнае разглядаць як нацыяналізм, як штосьці самае варожае і злачыннае, даў натхненне антыбеларускасці, і гэта, апошняе, не толькі жывучае, але і па-ранейшаму для нас ядавітае.

Фрунзе з'ехаў з Мінска; цяпер тут пачне ўзвышацца роля Мяснікова, Ландара, Кнорына і іншых, і ўжо яны радасна 25 кастрычніка абвесцяць "Приказ № 1. К населению г.Минска и окрестностей" пра тое, што ў Петраградзе ўлада перайшла да Саветаў і што яе шырока прызнаюць — адпаведна, і ў Мінску ды па-за ім улада таксама пераходзіць да Саветаў. Далей аб'яўлялася, што Мінскі Савет прыняў "самые решительные меры к охране революционного порядка

и установлению полезной дисциплины повсюду", а таксама ўсталёўваецца "революционная цензура" над усімі газетамі, што тут выпускаюцца ці сюды прыходзяць. Са зняволеных улетку, а цяпер вызваленых вайскоўцаў быў утвораны 1-ы рэвалюцыйны полк імя Мінскага Савета.

Новы (з 4 жніўня) камандуючы Заходнім фронтам (сімпатызаваў Карнілаву і яго мяцяжу) аказаўся больш рашучы за папярэдніка: 27 кастрычніка ўвёў у Мінск войскі і артылерыю. Запахла разбурэннямі і крывёю.

Як успамінаў пазней В.Кнорын, сутыкненне, а то і баі прадухілілі "героі адзінага сацыялістычнага цэнтра (?) на чале з А.Б.Штэрнам (?)". Пытальнікі, пастаўленыя ў цытату, азначаюць, што асабіста я не маю пад рукой канкрэтных фактаў, хто такія тыя выратавальнікі-штэрнаўцы. Зрэшты, ніхто з нас не шмат дакументаў, скажам, "жывых" пратаколаў знойдзе і з бальшавіцкіх пасяджэнняў, сходаў, канферэнцый, з'ездаў у Мінску і па-за ім як у 1917-м, так і пазней: ці тыя пратаколы не вяліся, ці згубіліся альбо вывезеныя і схаваныя, але цяпер ясна адно: бальшавікі заўсёды старанна засакрэчвалі сваю сапраўдную дзейнасць, на публіку, у друк давалі толькі адрэдагаванае і ім выгаднае. Асноўныя крыніцы, што раней былі даступныя, пра той час — тагачасныя газетныя публікацыі і пазнейшыя ўспаміны, дзе, зразумела, вернаадданніцкае ўсхваленне партыі, сябе і яраснае абвінавачванне ўсіх, "кто был не с нами".

Але калі набрацца цярпення і дапытліва прааналізаваць мемуары 20-30-х, а таксама ў 50- я рэдкіх ацалелых (многія нашы гісторыкі менавіта па іх, "готовых" ацэнках, "навукова" абгрунтоўвалі перамогу бальшавікоў), то ўсё ж, як кажуць, з сотні арэхаў можна знайсці некалькі, дзе ёсць калі не захаваны плод, то хоць уяўленне, якім ён мог быць. Дык вось, калі расшчапіць тыя "арэхі" — успаміны сведакбальшавікоў у індывідуальных і калектыўных зборніках, — то пэўным чынам вымалёўваецца тагачасная сітуацыя.

Каб прадухіліць кровапраліцце ў Мінску, на парытэтнай, г.зн. роўнай, аснове ад ваенных і палітычных партый утварылі Камітэт ратавання рэвалюцыі: па дамове штаб фронта не павінен быў умешвацца ў падзеі, займацца аператыўнай баявой дзейнасцю, а палітычныя партыі, у тым ліку і бальшавікі (яны, як і іншыя, паслалі ў Камітэт двух сваіх чалавек) павінны захоўваць спакой. Апошняе не вельмі задавальняла Ландара — старшыню Мінскага Савета, і Мяснікова. Каб замацаваць пазіцыі Саветаў і не дапусціць войскі на Петраград, яны пачалі ўтвараць свой Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняй вобласці і фронта, але пакуль што не асмельваліся з сілай ісці насуперак Камітэту ратавання.

Апошні (пад патранажам камісара Часовага ўрада на Заходнім фронце) пасля гарачых дыскусій і спрэчак нрыняў рэзалюцыю з шасці пунктаў, дзе галоўнымі, бадай, былі два: Камітэт не прызнае ўтворанага ў Петраградзе Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта і не падпарадкоўваецца яму, часова бярэ ўладу на Заходнім фронце. Утварылі камісію па назірку за дасягнутымі дамовамі. Варта зазначыць, што, здаецца, упершыню афіцыйна ў новыя структуры ўлады быў і запрошаныя і беларускія дзеячы: адзін — ад Вялікай беларускай рады, другі — як "відны нацыянальны дзеяч".

Пасланцы розных палітычных партый пільна сачылі адны за аднымі, уздымалі шум-бурум нават з-за розных дробязяў; час паказаў, што бальшавікі ў Мінску не пайшлі ні на які кампраміс, яны проста прыкідваліся саюзнікамі, выйгравалі час, бо на самай справе тайна рынуліея ў вайсковыя часці збіраць сілу. Іх падлоўлівалі на гэтым, патрабавалі распусціць іхні Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, але яны адмахваліся. Пазней член Камітэта ратавання, старшыня Мінскага камітэта РСДРП(б), член выканкама Мінскага Савета і бюро яго бальшавіцкай фракцыі І. Алібегаў ва ўспамінах "Под знаменем большевиков" прызнаецца: "Канечне, мы выдатна ведалі пра паездку таварышаў на фронт па ўзброеныя сілы і намагаліся ўтаіць гэты факт". Бальшавікі прывялі ў Мінск браняпоезд у ноч з 1 на 2 лістапада; яго кулямёты і гарматы змусілі панікнуць Камітэт ратавання, а калі стала вядома, што Часовы ўрад не здолеў сабраць ваенную сілу і павесці яе на Петраград, яны, бальшавікі, з хіхіканнем пакінулі Камітэт, абвінавацілі яго ў здрадзе рэвалюцыі і далейшы ход падзей узялі ў свае рукі. Над рэўкамам вобласці, над фронтам пачаў узвышацца Мяснікоў. Ён паспрыяе сілай скінуць у Магілёве Вярхоўнага галоўнакамандуючага генерала

Духоніна, які не падпарадкаваўся загаду Леніна весці перамовы з немцамі, і паставіць на гэтую пасаду бальшавіка Крыленку. В.а. камандуючага Заходнім фронтам таксама назначылі бальшавіка, чым зусім было забяснечана "триумфальное шествие Советской власти".

Бальшавікі ў Петраградзе абвясцілі тое, чаго чакалі ледзь не ўсе: мір і зямля. І яшчэ пачалі аслабляць нацыянальнае напружанне:

"1.Равенство и суверенность народов России.

2.Право народов России на свободное самоопределение, вплоть до отделения и образования самостоятельного государства" і т.д., і да т.п.

Новыя лозунгі цёпла падтрымалі левыя беларускія дзеячы, якія ўжо сталі бальшавікамі (Зм.Жылуновіч, А.Чарвякоў і інш:.), у парыве эмоцый ці не пазважаўшы, ці не ўбачыўшы, што ў "Декларации прав народов России" ёсць абяцанак праваў, але ***зусім няма механізму, як***

***гэтыя правы рэалізаваць***. Гэта быў хітры ход ці, лепш сказаць, прывабны падман. Абы выйграць час! Абы набраць уплыў і моц!

Лістапад-снежань 1917 года вельмі эмацыянальныя і бурлівыя. 7 лістапада Рада ў Кіеве абвясціла самастойную Украінскую рэспубліку (6 снежня анезалежніцца Фінляндыя, 11 снежня яшчэ больш амацуецца літоўская Тарыба, пайшоўшы на саюз з Германіяй). У Мінску, усё больш падпарадкоўваючы сабе Заходні фронт, больш учэпіста ўладу бяруць бальшавікі, надаючы ёй "заканадаўчыя" і "выканаўчыя, функцыі (Аблвыкамзах і Саўнаркам), дзеляць партфелі народных камісараў, дзе зноў жа тутэйшых няма. Мяснікоўцы пачалі раззбройваць польскія, украінскія і беларускія вайсковыя фармаванні, як і раней, заціскаючы ўсё мясцовае, марачы пра сусветную рэвалюцыю, гэта значыць — Беларусь для іх усяго толькі плацдарм для ўварвання ў Еўропу.

Беларускі грамадоўскі рух у Расіі "залявеў" — больш за тысячу рабочых, маракоў Балтыйскага флота ўтварылі Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю на чале з А.Чарвяковым. Яны — за Саветы, як і петраградскі гурт на чале з Зм.Жылуновічам. Гэтыя лідэры становяцца членамі Петраградскага Савета, а Жылуновіч у наркамаце па нацыянальных справах (наркам І.Сталін) займаецца беларускімі клопатамі, пазней узначаліць Беларускі нацыянальны камісарыят (Белиацкам) як аддзел усерасійскага і газету "Дзянніца", пра якую, забягаючы наперад, трэба сказаць самае лепшае слова.

У Петраградзе пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў зусім нечакана ўзнікае Беларускі абласны камітэт. Яго лідэры дыскутуюць і з мінчукамі-беларусамі, і з Жылуновічам ды Чарвяковым, патрабуюць прызнання і ўлады. Тым не менпх у Мінску ідзе спроба захаваць свае вайсковыя сілы (да высілкаў Езавітава і Рак-Міхайлоўскага далучаюцца і некаторыя генералы-беларусы), а на 5 снежня плануецца правесці новы нацыянальны з'езд, але на гэты раз больш прадстаўнічы і з больш акрзсленай праграмай. Пасля перамоў мінчукоў і петраградцаў лідэры ВАКа, якія дагэтуль не прызнавалі нікога, апроч сябе, раптам пайшлі да Сталіна з прызнаннем Савецкай улады і з просьбай пад іхняй эгідай правесці (здаецца, у Магілёве) 15 снежня з'езд наконт беларускага пытання. Паколькі Саўнаркам на чале з Леніным рыхтаваўся прызнаць права ўкраінцаў на самавызначэнне (зразумела, на савецкай платформе), то Сталін даў згоду, але з умовай: краявы з'езд Беларусі праводзяць БАК і Саветы ў Мінску. Выбранаму на гэтым з'ездзе Савету і павінна належаць краявая ўлада на ўзроўні аўтаноміі. Чарвякоў і Жылуновіч пайшлі на кампраміс. Такім чынам, беларускія дзеячы ў Мінску не дапускаліся вырашаць лёс Беларусі як такой.

Ленін выдзеліў БАКу грошы, тэлеграф, радыё, дапусціў, каб пры Саўнаркаме былі пасланцы ад ВАКа, але калі апошні паспрабаваў трапіць на мірныя перамовы ў Брэст-Літоўск, то яму рашуча адмовілі. Значыць, не нрызнавалі і за ім ніякіх урадавых функцый.

Абураныя беларускія дзеячы ў Мінску не сталі чакаць 15-га, а адкрылі свой запланаваны з'езд (на яго з'ехаліся яшчэ не ўсе дэлегаты). З'езд да канца не давялі: БАК тэлеграмай загадаў "сход ад 5 снежня лічыць сходам, ніякіх рашэнняў не прымаць, іначай будуць пагібельныя вынікі", а па-другое, мяснікоўцы дарэшты раззброілі ўкраінскія, беларускія часці і прыгразілі прымяненнем сілы. У гэтай сітуацыі Мінск паспрабаваў узяць у свае рукі Доўбар-Мусніцкі; ягоныя часці таксама раззброілі, штаб арыштавалі. Але асцерагаючыся варожасці з палякамі (у часцях Доўбар-Мусніцкага было нямала і беларусаў), міжнароднай рэакцыі, цэнтр загадаў доўбарчыкаў вызваліць, вярнуць ім зброю і ўсіх выслаць пад Бабруйск.

Я нідзе не бачыў і стэнаграмы пра тое, пра што і як перамаўляліся ў Мінску прыезджыя лідэры БАКа і Мінскага Савета на чале з Ландарам пра намечаны "савецкі" беларускі з'езд, але ёсць ускосныя звесткі, што бакаўцы мелі спробу хоць крыху ды пазбавіць ландарцаў-мяснікоўцаў узурпацыі ўлады (да слова, праз прадстаўніцтва ў будучым краевым Савеце, дзе, апроч сябе, бачылі і пасланцоў ад мінскіх беларускіх дзеячаў, што Ландару-Мяснікову было косткай у горле, а па-другое, апошнія зусім не мел і намеру дзяліцца ўладай і, як пакажа час, маючы тайныя гарантыі цэнтра, зноў вопытна загулял і ў "дэмакратыю".

Той, апошні ў снежні нацыянальны з'езд, які пазней назавецца Усебеларуекім і які ўрачыста, з нацыянальнымі сімваламі, адкрыўся ў сённяшнім тэатры імя Янкі Купалы (сакратарыла на з'ездзе Зоська Верас; яна ўпотай паказала мне шмат тагачасных дакументаў), быў не толькі дазволены цэнтральнымі і мінскімі ўладамі, але быў і цалкам законны ды паўнамоцны. Былі дэлегаты і запрошаныя, Са стэнаграмы вынікае, што вызначыліся чатыры накірункі: беларуская незалежнасць, аўтаномія, саюз з Саветамі і нейкі "адзіны непадзельны беларускі сацыялістычны фронт".

Мандатная камісія па прычыне, што неўзабаве назавецца, не паспее абнародаваць дакладную колькасць дэлегатаў, іхнія сацыяльнае становішча і партыйнасць і г.д. Было распісана недзе толькі 360 анкет. З іх вынікала: сацыялістаў-рэвалюцыянераў (правых) — 78, сацыялістаў-рэвалюцыянераў (левых) — 57, БСГ — 33, сацыял-дэмакратаў — 7, з Беларускай партыі сацыялістаў-народнікаў — 6, трудавікоў — 4, сацыял-дэмакрата-інтэрнацыялістаў — 2, беспартыйных — 79,

спачуваючых бальшавікам ці эсэрам — 70, бальшавікоў — 30, "ідэйных бальшавікоў" — 2 і г.д. З "помещиков" ці "буржуа" трапіў... толькі адзін!

Канечне, за гэтым з'ездам быў самы пільны назірк. Прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў, палітычных накірункаў павінны былі законна вырашыць сённяшняе і будучае былога Паўночна-Заходняга краю, ужо не на словах, а на справе пераканацца ў сапраўднасці савецка-бальшавіцкай "Деклорации" аб правах народаў.

Вядома ж, зноў не магло не абысціся без спрэчак і правакацый, але здаровыя сілы не дапусцілі зрыву і роспуску з'езда. Ён ішоў сваім ходам, набліжаўся да прыняцця агульных кампрамісных рэзалюцый і пастаноў.

Ды з усіх пунктаў фактычна быў як след выпрацаваны і прыняты толькі адзін. Але які! Прызнаць Саветы ў Петраградзе, супрацоўнічаць з імі, а вось што да ўлады ў Мінску, то тут трэба сгварыць Усебеларускі Савет (Раду) сялянскіх, рабочых, салдацкіх дэпутатаў і ўсталяваць рэспубліканскі лад. Краёваму Савету (Радзе) павінна перайсці дзяржаўная ўлада.

Што з гэтага вынікае? Першае: з'езд не быў антысавецкім, а з адным буржуа — буржуазным. Другое: не грашыў нацыяналізмам, бо, змагаючыся за нацыянальную незалежнасць, аніяк не распальваў нацыянальнай варожасці. Трэцяе: яшчэ і яшчэ раз трэба паўтарыць, на законнай аснове афармлялася беларуская дзяржаўнасць і мірны пераход да ўлады ў ёй. Ды тэты кангрэс стане і "антисоветским", і "националистическим", і "буржуазным", і г.д. Найперш з-за таго, што ён не цалкам прызнаў чужародныя, створаныя сілаю Аблвыкамзах і Саўнаркам.

Ледзь толькі зацвердзілі вышэйназваны першы пункт, як у залу ўварваліся ўзброеныя ландарцы-мяснікоўцы і, як расказвала мне адна з удзельніц тых падзей, тагачасны ваенны мінскі камендант, нехта п'яны Крывашэін у хромавых ботах і ў скураной куртцы, трасучы ў паветры наганам, загадаў спыніць з'езд. І запынілі. Прэзідыум з'езда арыштавалі і зняволілі. А гэтым самым і сваю "Декларацию" аб правах народаў. Зразумела, гэты гвалт учынілі не толькі па волі Ландара-Мяснікова. Ім, гэтым насіллем, беззаконнасцю закладваўся грунт для новай, Савецкай, улады, якая ўсіх пагоніць у "светлую будучыню" з дубінай у руцэ, праз мора чалавечых слёз і крыві.

Што да Усебеларускага з'езда, то пазней адзін з кіраўнікоў Савецкай Беларусі А.Чарвякоў нясмела зазначаў, што ўлады ў Мінску паспяшаліся разганяць яго, бо там была моцная і бальшавіцкая плынь. В.Кнорын, хто, як і Фрунзе, Мяснікоў, Ландар і іншыя, упіўся ў Мінску ўладаю і рабіў усё магчымае, каб не дапусціць да яе беларусаў, таксама

прызнаваўся, што з'езд можна было давесці да канца. Не, Кнорын не прызнаваў сваіх памылак, ён мысліў іначай: той з'езд усё ж можна было раекалоць, адабраць самых надзейных, прадажных і далучыць да сябе, г.зн. у іхнія Аблвыкамзах і Саўнаркам Заходняга фронта, і беларускае пытанне магло б быць пацiху патушанае, гэтак бы не абвастрылася пазней.

...Толькі ў 1995 годзе ў гістарычнай навуцы ("Беларусь", энцыклапедычны даведнік) і таму, Усебеларускаму, з'езду далі адну з першых справядлівую, без ярлыкоў, начэпленых ландара-кнорына-мясніковымі і іхнімі пазнейшымі падпявaламі, ацэнку. Ды каго з фальсіфікатараў гісторыі і беларускага руху яна прысароміла? Што вельмі змяніла ў аблічча таго ж Мінска, дзе ў 1917-м шмат што вырашалася, наш лёс у тым ліку?

# Слова другое. 1918 год

У ноч з 6 на 7 студзеня 1918-га ленінскі ўрад разагнаў Устаноўчы сход — "вчерашний день революции": на гэты форум трапіла мала бальшавікоў, там загучаў зусім не бальшавіцкі тон, адпаведна ў выніку ўлада **законна** магла перайсці да кааліцыі, дзе бальшавікі былі б у меншасці, і былая Расійская імперыя пайшла б далей не ленінскім шляхам. Савецкі ўрад нанёс паражэнне не толькі народнаму волевыяўленню, але парламентарызму і дэмакратыі, ступіў на сцяжыну да сваёй дыктатуры, справакаваў будучую грамадзянскую вайну, якая прынясе рэзрух і голад, забярэ мільёны чалавечых жыццяў.

28 студзеня кіраўнік савецкай дэлегацыі Троцкі на перамовах з немцамі ў Брэсце не падпісаў мірны дагавор і аб'явіў, што Савецкая Расія вайну... спыняе, а армію... дэмабілізуе! Доўга ўсім нам тлумілі галаву: гэта — асабісты выбрык Троцкага. Але чаму тады яго не пакаралі, а пачалі даваць яму вельмі высокія пасады? Лухта, гэта быў загадзя прадуманы хітры ход, каб немцаў... так-так, напусціць на Расію! Ленін, раней прапаведуючы тэзіс паражэння Расіі ў вайне, не мог не бачыць, як зневажае, абурае гэтым патрыятычныя пачуцці многхх сумленных людзей, цяпер, у новых умовах, "запаважаў" свяшчэннае ў душы кожнага патрыёта — бараніць Радзіму, а значыць: калі запусціць кайзераўцаў углыб, то гэта не можа не занепакоіць шырокія колы грамадства, адцягне іх ад палітычнай барацьбы, не можа не павабіць на барацьбу з агрэсарам. Толькі трэба вылучыць патрэбны, нават выра- тавальны лозунг. Вылучылі: "**Социалистическое** (падкрэслена мною. — Г.Д.) Отечество в опасности!" Не Радзіма, не Расія і ўсе яе народы — "социалистическое Отечество!" Гэта дазваляла накіроўваць народны патрыятычны парыў, асядлоўваць яго, а заадно ствараць новую, сваю, верную армію, што будзе ваяваць не толькі з захопнікам, а, калі трэба, то і са сваім народам (пазнейшыя "покорения" Кранштата, Тамбоўшчыны, Туркестана, нацыянальных сіл на Украіне і ў Беларусі пакажуць, што задума ўдалася).

Зразумела, Германіі, хоць яе некалі Бісмарк перасцерагаў, каб не счэплівацца са славянамі, асабліва з рускімі, не магло не закарцець рушыць далей, захапіць тыя ж Украіну і Беларусь, якія ім цяпер проста паднеслі на талерцы: бярыце, абірайце, нам іх зусім не шкада!

Сваволіў Доўбар-Мусніцкі — за Польшчу. Праўда, заігрываючы з беларускімі і ўкраінскімі дзеячамі, каб займець ад іх найперш палітычную падтрымку. У полі яго зроку ўсё больш і больш станавіўся

Мінск, дзе, застаўшыся без арміі, што дэмабілізавалася, мяснікоўцы пачалі спешна пакаваць чамаданы.

Беларускі рух, што да снежня 1917 года набыў досыць значны размах і мог на законным грунце аформіцца ў нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт краю, з-за мяснікоўскага насілля апынуўся ў крызісе: той-сёй з відных дзеячаў марнеў за кратамі, іншыя мусілі пайсці ў глыбокае падполле і да ўсяго пасварыцца з петраградцамі Зм.Жылуновічам і А.Чарвяковым, лічачы, што тыя прадаліся ўзурпатарам і насільнікам — бальшавікам. Праўда, з імі, мінскімі беларускімі дзеячамі, пачалі шукаць саюзу іншыя скрыўджаныя Леніным — тутэйшыя паалейцыяністы, бундаўцы і нават некаторыя велікарускія эсэры і меншавікі, каго дасюль, да разгону Установчага сходу, таксама літаральна трэсла толькі ад аднаго слова "беларускі".

Тыя беларускія дзеячы, хто ацалеў на волі, на тайных сходах пастанавілі: 1) Першы Усебеларускі з'езд разагнаны мяснікоўцамі незаконна; 2) Савет/Раду з'езда прызнаць выканаўчым органам з'езда, і яна, Рада, павінна ажыццяўляць усе пастановы з'езда; 3) папоўніць Раду і даць права адводу, адклікання і кааптацыі; 4) БАК і іншыя беларускія суполкі неадкладна спыняюць сваё існаванне і перадаюць усе свае справы, маёмасць Радзе; 5) Цэнтральная вайсковая рада існуе як падпарадкаваны орган Радзе з'езда; 6) 2-гі Усебеларускі з'езд склікаецца ў найбліжэйпішы час і г.д.

Новае папаўненне (а ў ім былі вельмі вядомыя на той час у Мінску людзі, скажам, былы галава гарадской думы) ва ўмовах, што склаліся, спакваля пачало прыбіраць беларускі рух у свае рукі, асабліва эсэры. Якраз яно перад наступлением Доўбар-Мусніцкага і немцаў склала спіс Народнага сакратарыята Беларусі — па яго словах, "урада, які цяпер мусіць абараняць інтарэсы дэмакратыі". Задумалі мець у гэтым урадзе 20 міністэрскіх пасад, але ў спрэчках зацвердзілі толькі 15 ад розных партый. 5 асоб самі ўхіліліся ад гэтай справы, лічачы за лепшае ціха перачакаць такі няясны час. Народны сакратарыят прыняў рэзалюцыю: *"Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што край можа быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен здзейсніць сваё права на поўнае самаазначэнне, а нацыянальныя меншасці — на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію. Правы нацыі павінны знайсці сваё здзяйсненне шляхам склікання на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму. Але і да склікання Устаноўчага Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць. Выканаўчы камітэт Рады першага Усебеларускага з'езду, папоўнены*

*прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасцяў, здзяйсняючы мэты з'езду, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіравання краем і склікання, як можна хутчэй, Усебеларускага Устаноўчага Сойму на аснове агульнага, простага, роўнага, тайнага і прапарцыянальнага выбарчага права для ўсякага дарослага, ня лічачыся з нацыянальнасцю, вызнаннем і родам. Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацверджанне заваяванняў рэвалюцыі, будзе здзяйсняць створаны намі Народны сакратарыят Беларусь, які ад гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі. Пэрсанальны склад сакратарыяту будзе апублікаваны пасля".*

Як бачым, гэтая рэзалюцыя мела агульны характар, але не можа сёння не кінуцца ў вочы: зноў жа, як і на Усебеларускім з'ездзе, у ёй няма ніякага "национализма", тым больш "буржуазного", па-другое, у ёй — як асуджэнне (даволі мяккае) савецкіх улад, што з-за сваёй палітыкі кінулі Беларусь пад ногі кайзеру, так і непрыняцце (выразна негатыўнае) хуткай нямецкай акупацыі. Апошняе насцярожыла некаторых, найперш з папаўнення: не трэба злаваць і немцаў, і Доўбар-Мусніцкага, варта пачакаць, паглядзець, як тыя тут павядуцца.

Мяснікоўцы, страціўшы моц без браневікоў і штыкоў, а з ёй і ўладу, у гэты час вылучылі для сябе дзве галоўныя задачы: любой цаною выжыць найперш самім і мець шанец на ўладу тут у будучым. Для гэтага яны намерыліся ўпотай расстраляць самых страшных для сябе — у палітычным плане — сапернікаў: найперш арыштаваны і зняволены імі прэзідыум снежаньскага Усебеларускага з'езда, ды зняволеныя (а сярод іх былі загартаваныя катаржане і афіцэры) адчулі гэты вераломны намер, у спрыяльную хвіліну, за нейкі міг да смерці, абяззброілі ўжо малалікі і разгублены савецкі канвой і ўцяклі з турмы. Адзін з выратаваных, капітан Езавітаў, амаль тут жа стане ваенным камендантам Мінска і адыграе ў ягоным лёсе немалую ролю.

Мінск чарговы раз стаў у цэнтры ўвагі не толькі расійскай, але і еўрапейскай грамадскасці: сюды накіраваліся немцы, сюды заспяшаўся Доўбар-Мусніцкі, каб першым уварвацца ў горад і падаць яго немцам як даўняе польскае "място", адпаведна адразу ж вылучыўшы і тут польскае пытанне. Ён, сапраўды, здолеў апярэдзіць, захапіў шмат скарбу, але, бадай, зусім нечакана для сябе сустрэў заслону з беларускіх сіл, што да гэтага часу ўжо занялі былы губернатарскі дом і афіцыйна заявілі сваё законнае права на гаспадарства ва ўмовах безуладдзя. Доўбар-Мусніцкі меў перавагу і значную, але не рызыкнуў спажыЦь яе перад носам у немцаў, якія адносіліся да яго падазрона, мусіў лічыцца з Народным сакратарыятам, падзяліўшы з ім горад на сферы ўплыву. Гэты факт сёння дае падставу не здзекавацца, як раней, з

"бумажностй" ўлады "националистов", а прызнаць поспехі тагачасных свядомых беларусаў і іхніх саюзнікаў з іншых нацыянальнасцяў, што не на словах, а на справе дбалі пра народ. Кал і мы хочам праўды, то пэўныя рэчы несумленна, фальсіфікацыйна як перабольшваць і захвальваць, так і заніжаць ды абражаць.

Мяснікоўцы, што паспелі, прыхапілі з дзяржаўных сейфаў, нашкрэблі 200 чалавек аховы і нацэліліся ў класных вагонах (паспелі ўжо стаць элітай!) даць драла на Смаленск; мінскія дэпоўцы, найперш беларускія і польскія дзеячы, запатрабавалі: вярніце грошы, нам жа, Мінску і ўсёй Беларусі, трэба ж за нешта жыць! Дзеля гэтага не давалі ўцекачам-рабаўнікам паравоза, каб пацягнуць напакаваныя дабром і зброяй вагоны. Мяснікоўцы, людзі адчайныя і бязлітасныя, спачатку расстралялі начальніка станцыі, таго-сяго з дэпо, а пасля Народнаму сакратарыяту паставілі ультыматум: не выпусціце — бабахнем з усіх гармат і кулямётаў па Мінску!

Калі я пра гэта напісаў у рамане "Свой дом", то рэдактары сумеліся: Мяснікоў — канечне, не дабрадзей для беларускага. народа, але ён не мог пайсці на такі злачынны крок! Прыйшлося паказаць кнігу ўспамінаў старых бальшавікоў, дзе адзін з аўтараў, здаецца, начальнік таго цягніка, пра той ультыматум пісаў з пахвальбою як пра доблесць! Вось так! Геній рускай літаратуры Дастаеўскі кожную дзіцячую слязінку лічыў бядою і горам, а тут для свайго выратавання маглі легка пайсці на велізарныя разбурэнні і на раку крыві мірнага люду! Мінскія дэпоўцы, вагонарамонтнікі, увогуле ўсе мінчане, як нам не ганарыцца, што ў нас столькі ўсяго ўвекавечана імем слаўнага Мяснікова! Ды ажыццявім даўнюю задуму: паставім яму помнік! Калі ўжо быць абыякавымі да сваёй гісторыі ці не паважаць саміх сябе, дык да канца! Вораг наш — лепшы, любімы герой наш!

Народны сакратарыят пашкадаваў Мінск, даў паравоз — мяснікоўцы з'ехалі ў Смаленск, каб ужо там нрадстаўляць "законную власть населения Северо-Западного края", у якое надоечы гатовы былі заемаліць з усіх стваловў! (Дарэчы, хто жадае больш уведаць пра норавы, оргіі і махінацыі Мяснікова і яго памагатых, чыімі імёнамі таксама ўпрыгожаны мінскія вуліцы, вазьміце "Советскую Белоруссию" за 13 лютага 1999 года і пачытайма, палюбуймася, яшчэ і яшчэ раз паганарымся, каго і за што ўслаўляем!).

Кайзераўцы — у Мінску. Нашчадкі пабітых у Грунвальдскай бітве праз 500 з хвосцікам гадоў пачалі лёгка заваладваць нашчадкамі адных з былых пераможцаў. Не магло не паўстаць пытанне: як паводзіцца з акупантам? Змагацца з ім не было сіл, сядзець у запечку — мала сэнсу і толку, значыць, варта пайсці на перамовы і

дыпламатыю. Менавіта апошняе і абраў Народны сакратарыят, які павітаў вышэйшае нямецкае камандаванне як вызваліцеляў ад бальшавіцкага ярма і пачаў падступацца да свайго, запаветнага.

Немцы ёсць немцы: прадуманасць, лад, кантроль, рэжым і пры ўсёй разліковасці асцярожнасць. Яны выслухалі беларускую дэлегацыю і, па-першае, не задаволіліся, што Народны сакратарыят публічна ў Першай Устаўной Грамаце не павітаў іх, а па-другое, спасылаліся на тое, што няма ўказанняў з Верліна наконт беларускага пытання ды ім найперш трэба клапаціцца пра сваю армію — карацей, ухіліліся ад усякай канкрэтыкі. У Вільні, у Кіеве немцы паводзіліся іначай, бо там была іншая сітуацыя — мацнейшы нацыянальны рух, большае імкненне да сваёй мовы, культуры, дзяржаўнасці. Да слова, яшчэ ў верасні 1917 года была ўтворана Літоўская Тарыба (савет), якая неўзабаве падпісала дэкларацыю аб саюзе з германскай імперыяй, а ў лютым 1918-га акт аб незалежнасці Літвы, фактычна яшчэ ў 1917-м вырашылася і пытанне пра самастойнасць Украіны, хоць гэтаму супрацьстаялі маскоўскія і петраградскія атрады на чале з У. Антонавым-Аўсеенкам, якія ў канцы года перамаглі Цэнтральную раду і забяспечылі ўзнікненне Украінскай рэспублікі Саветаў. Асабіста я не ведаю, на колькі кайзераўцы меліся застацца ў Мінску, у Беларусі, — часова ці надоўга, але гісторыя яшчэ і яшчэ раз паказала: акупанты ёсць акупанты, не вельмі лічацца са слабым, найперш дбаюць пра сваё, падтрымліваюць у акупаваных не свядомае, асноватворнае, а патрэбнае, а то і нішчаць тутэйшыя звычаі, помнікі гісторыі і культуры, мову, каб заглушыць гістарычную памяць і дэнацыяналізаваць народ, ператварыць яго ў паслухмяную рабсілу. Што да Беларусі, то менавіта так з ёю паступалі стагоддзямі і заходні і ўсходні суседзі, пераўжоўваючы яе ў свае "крэсы", у "ветвь". Можа, Берлін і сапраўды не зусім уяўляў беларускае пытанне ці не хацеў раздражняць Леніна, з якім германскі штаб меў пошапт і хаўрус.

Каб дзейнічаць, Народнаму сакратарыяту, як і любой іншай уладзе, патрэбны былі сродкі. Тое, што звёз Мяснікоў, сплыло; звярнуліся да Доўбар-Мусніцкага: ягамосць, паколькі цяпер на нас кладзецца клопат пра народ, якому проста трэба выжыць, просім вярнуць нам прысвоеныя вамі грошы, скажам, і тыя ж 12 мільёнаў рублёў з Мінскай паштовай канторы. Ды... Нямецкі генералітэт, агаворваючыся тым, што яму ўжо ёсць загад забараніць усякую палітычную дзейнасць, на пяты ці шосты дзень бесцырымонна выкінуў сяброў Народнага сакратарыята на вуліцу, забраў іхні наяўны скарб, маёмасць, змусіў прыбраць з мінскіх дамоў старажытную, з XIII стагоддзя, беларускую нацыянальную сімволіку. У горадзе былі вывешаны нямецкія сцягі.

Што загадаем рабіць у гэтых умовах Народнаму сакратарыяту? Апусціць нос, далей не дбаць пра свой люд, чакаць выніку нямецка-бальшавіцкіх варункаў? Бясспрэчна, той выбраў адзіна правільны шлях — дзейнічаць у падполлі. Як дзейнічаў і мінскі раённы камітэт РКП(б). Праўда, кожны са сваімі мэтамі. У апошняга на першым плане пад патранажам Мяснікова сабатажная і тэрарыстычная барацьба з акупантам, у першага, у Народнага сакратарыята, — палітычнае змаганне, спроба адзяржавіцца. У гэты час зноў на паверхню ўсплыў адрынуты беларускім рухам памешчык, былы буйны царскі дзяржаўны дзеяч Скірмунт, які пачаў наладжваць кантакты з гер- манскім камандаваннем, заварожваць яго, каб утварыць Беларусь у саюзе з Германіяй, як на тое пайшла літоўская Тарыба.

Падпольныя сходкі Рады снежаньскага з'езда, Народнага сакратарыята праходзілі са спрзчкамі. Яны, спрэчкі, ішлі вакол цэнтральнага і самага хвалюючага ды балючага: што і як рабіць, на каго цяпер арыентавацца? Сваіх сіл мала, дык: а) чакаць, што Савецкая Расія дасць немцам адпор і прызнае Беларусь, як раней на савецкай пазіцыі прызнала Украіну; б) не траціць час, не паддавацца ілюзіям і ісці на паклон да Берліна? Большасць была за першае. Неўзабаве выпрацавалі і прынялі Другую Устаўную Грамату, дзе ўжо канкрэтызавалі свае арыенціры. Зусім не лішне напомніць іх:

*"У часе сусветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабляе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцця. Пасля трох з паловаю вякоў няволі зноў на ўвесь свет, кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі з'езд 15-17 снежня 1917 г., дбаючы аб долі Беларусі, зацвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю з'езду і баронячы дзяржаўнае права народу, Спаўняльны каміга пэт Рады з'езду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правах і вольнасці яе грамадзян і народаў:*

*1. Беларусь у рубяжох рассялення і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.*

*2. Асноўныя законы Беларускае Народнае Рэспублікі зацвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусь, склікаены на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыя- нальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасць Ь рэлЬгЬю.*

*3. Да часу, паку ль збярэцца Устаноўчы Сойм Беларусь, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай РэспублЬцы належыць Радзе Усебеларускага з'езду, дапоўненай прадстаўнікамі мен- шасцей Беларуси*

*4. Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму сакратарыяту Беларусь, які назначаецца Радаю з'езду і перад ёю трымае адказ.*

*5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, безумоўная свабода сумлення, незачэпнасць асобы Ь памяшкання.*

*6. У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію, абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў Беларусі*

*7. У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі права прыватнае ўласнасці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, азёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасцю Беларускае Народнае Рэспублікі.*

*8. У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўстанаўляецца найбольш 8-гадзінавы рабочы дзень.*

*Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларускае Народнае Рэспублікі, мы, Спаўняльны Камітэт Рады З'езду, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцця ў Рэспубліцы, сцерагчы інтарэсы ўсіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасць працоўнага люду. А так сама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшы час Устаноўчы Сойм Беларусі.*

*Усіх верных сыноў Беларускае зямлі клічам памагчы нам у цяжкай і адказнай нашай працы.*

*Спаўняльны Камітэт Рады 1-га Усебеларускага З'езду. Выдана ў Мінску-Беларускім 9 сакавіка 1918".*

Зразумела, гэты дакумент не мог спадабацца ні Берліну (няма яму паклону), ні мяснікоўцам, якія зусім не жадалі страчваць уладу. Нямецкае камандаванне не падтрымала, а мяснікоўцы абрушылі лавіну абрыдлых абраз: "контрреволюция", "буржуазные интриги", "национализм" і г.д., хоць гэтага і ў паміне не было, а быў шчыры клопат сумленных людзей пра свой край і народ, кінутыя на волю лесу.

У Смаленску, у Петраградзе, а пазней і ў Маскве, якая з 12.03 стала сталіцай РСФСР, ведалі, што і як робіцца ў Мінску, на свае вочы бачылі высілкі там, у Расіі, па беларускай справе Зм. Жылуновіча і А. Чарвякова. Ведалі, бачылі, але вырашаць беларускае пытанне зусім не спяшаліся, Беларусі была ўгатавана доля расійскай губерні пад шыльдай "Заходняя камуна" (пазней — "Заходняя вобласць"). Гэты ўпарты аспект не мог не падштурхнуць да новага, больш строгага да Смаленска і Масквы сцэнарыя падзей. Беларускія дзеячы вырашылі: 1) апублікаваць свой дакумент у друку; 2) належна пра ўсё праінфармаваць немцаў; 3) з'ездзіць у Кіеў і папрасіць фінансавай дапамогі, а

таксама дып- ламатычнай падтрымкі, заклікаць Еўропу прызнаць БНР; 4) пасладь дэлегата ў Савецкую Расію, да Жылуновіча і да наркама па нацыя- нальных сгхравах Сталіна, каб запэўніць, што аб'яўленне БНР зусім не азначае разрыў з Расіяй; 5) была ўтворана (18 сакавіка) Рада БНР — заканадаўчы орган краю і на 24 сакавіка быў назначаны з'езд Рады БНР з запрашэннем на яго і дэлегацыі віленскіх беларусаў.

Яшчэ раз перачытайма гэтыя пяць пунктаў праграмы дзеяння мінскіх беларускіх дзеячаў ва ўмовах кайзераўскай акупацыі. Дзе і што тут здрадніцкае, злачыннае?

Тым не менш адно з палажэнняў пункта 5 рэзка зменіць сітуацыю. Праз віленскувд дэлегацыю.

Як вядома, Вільню кайзераўцы акупавалі на некалькі гадоў раней, чым Мінск; расійскія вайскоўцы і чынавенства з яе сышлі, здаецца» нават помнік Мураўёву-вешацелю вывезлі ўглыб імперыі; у Вільні задзейнічалі польскі, літоўскі і беларускі асяродкі. Сама па сабе, у супрацьстаянні паміж сабою і ў зносінах з новымі гаспадарамі. Як ужо гаварылася, з помаччу немцаў узвысіліся літоўцы і сцвердзілі сваю дзяржаўнасць.

Дык вось у Мінск, паколькі цяпер быў вольны праезд, прыбыла невялікая дэлегацыя, але ў ёй былі браты Луцкевічы — сярэдняга веку людзі (ім яшчэ не было і 40), але ветэраны палітычнага і грамадскага руху, ідэолагі беларускага адраджэння, тыя, што заеноўвалі на самым пачатку XX стагоддзя БСГ, выдавалі газеты "Нашу долю", "Нашу ніву", "Гоман", выдавецтва "Наша хата", адчынялі беларускія школы і настаўніцкія курсы, збіралі калекцыі беларускай даўніны, спрыялі стаць на ногі Я.Купалу, Я.Коласу, М.Багдановічу, З.Бядулю, М.Гарэцкаму, а ў акупаванай Вільні спрабавалі пасаюзіцца з літоўцамі і стварыць еумесную дзяржаву з соймам і сталіцай у Вільні.

На радзіме, у Мінску, наведаўшы свежую магілу маці, Луцкевічы адразу ж, як кажуць, з галавой акунуліся ў тутэйшае палітычнае жыццё. Асабліва Антон. Ён, будучы старшынёй Віленскай беларускай рады, удзельнічаў у сходзе Грамады, а праз яе — у пасяджэннях Народнага сакратарыята і ў Радзе БНР (у апошнюю яго кааптавалі 18 сакавіка), азнаёміўся з сітуацыяй і, як вопытны палітык, сведка ххоспеху літоўцаў у Вільні, рэзка павярнуў беларускую нацыянальную ідэю ў іншы бок, заклікаў мінчукоў пайсці шляхам віленцаў- літоўцаў. А пачалося ўсё, здавалася б, ледзь не з пабочнага: з абгаворак пра паўнамоцтвы беларускай дэлегацыі ў Кіеў.

У 1980-я, калі я пісаў раманы "Гаспадар- камень" і "Пабуджаныя", мне пашчасціла вывудзіць са спецсховішчаў і такія кнігі, як "Памяці

Івана Луцкевіча. У першыя ўгодкі сьмерці яго (20.8.1919-20.8.1920). Вільня. 1920" і "За дваццаць пяць гадоў (1903-1928). Вільня. 1928". Апошняя кніга — гэта ўспаміны Антона Луцкевіча, у тым ліку і пра тую яго з братам паездку ў Мінск, пра ўтварэнне БНР. У маім рамане "Свой дом" у вусны герою Антону Лапкінскаму ўкладзены такія словы:

"Першае, што запытаюць у дэлегацыі (у Кіеве): які ваш, браточкі, *статус*? — Антон падняў сіні, як і ў брата, аловак. Нрыцягнуў яшчэ большую ўвагу да сябе. — А статус яшчэ сёння невыразны. Як мы, прыезджыя, зразумелі, Рада БНР механічна лічыць сябе сябрам Расійскай Федэрацыі. Але, выбачайце, тая за гэткага сябра вас не лічыць, бо не прызнавала і не прызнае вас. Па-другое, ці захоча *незалежная* Украіна штосьці пазычыць нам як частцы Расеі без згоды, без гарантыі цэнтральнага ўрада? Канечне, не. Іншая, спадары, рэч, каб прыехала дэлегацыя *незалежнай* БНР. Тады перамовы пайшлі б зусім па-іншаму — як перамовы *суверэнных* дзяржаў..."

Гэты аргумент майго Лапкінскага — амаль цалкам задакументаваныя словы Антона Луцкевіча. Яны — і гэтыя, і іншыя развагі — выдатнага нашага дзеяча (пазней, будучы лідэрам абноўленай БНР, не раз будзе ў савецкай, польскай і зноў савецкай турмах. З апошняй ужо не выйдзе. Рэабілітаваны ў 1989-м, але ў замоўчванні — не трэба гаварыць гучна "ідэалогія" ці яшчэ як там утварэння БНР, яны, ягоныя развагі і аргументы, проста разумнае ўсведамленне, свядомае абгрунтаванне на прыкладзе іншых народаў, што перш за ўсё неабходна быць самім сабою.

Ідэю незалежнасці ды яшчэ, як і ў Вільні, з просьбай падтрымкі Германіі многія мінчукі — не толькі сярод эсэраў, меншавікоў, бундаўцаў, земцаў, але і ў Грамадзе, Народным сакратарыяце, Радзе БНР — успрынялі як бомбу. Што — мы без Расіі-карміліцы? Без яе цыцаў з нафтай? Без яе штыкоў? Калі не прападзём, дык нас жа глыне Германія ці яшчэ хто! Былі прапановы адкрыты 25 сакавіка з'езд лічыць толх^кі дыскусійнай нарадаю. Ды з'езд адбыўся, прыняў рэзалюцыі, абраў кіруючыя органы БНР: прэзідэнт, старшыня і народны сакратар замежных спраў, народны сакратар скарбу, народны сакратар асветы, народны сакратар кантролю, народны сакратар вайсковых спраў і маскоўскі консул.

З Трэцяй Устаўной Граматы: "Ад гэтага часу ***Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай***".

У вышэйназваным дакуменце былі падверджаны палажэнні ранейшых дакументаў, азначаныя межы Беларусі, і ўжо 25 сакавіка з Мінска ў Берлін пайшла тэлеграма: *"Рада Беларускае Народнае*

*Рэспубліці, як выбраная прадстаўніца Беларускага Народу, зварачаецца да Вашай імператарскай Вялікасці з словамі глыбокае падзякі за вызваленне Беларусі нямецкімі войскамі з цяжкага ўціску, чужога пануючага здзеку і анархіі.*

*Рада Беларускае Народнае Рэспублікі дакляравала незалежнасць цэлае і непадзельнае Беларусі і просіць Вашую Імпэратарскую Вялікасць аб абароне ў яе кіраваннях дзеля ўмацавання дзяржаўнае незалежнасці і непадзельнасці краю ў сувязі з Германскай Імпэрыяй.*

*Толькі пад абаронаю Германскай Імпэрыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыні".*

У свой час бачыў я тых урадоўцаў на фота (яго прывезлі мне з-за мяжы ў падручніку КПСС), ведаў іхнія сапраўдныя імёны, але ў рамане "Свой дом" у працяг літаратурнага прыёму мусіў называць іх псеўданімамі. Тых урадоўцаў кляймілі, але агульна, без упамінання іхніх прозвішчаў. Толькі ў энцыклапедычным даведніку "Беларусь" (1995) падалі іх кароткія біяграфіі. Хто той Прэзідэнт? Серада Іван Мікітавіч, 1879 года нараджэння, з вёскі Задвел Мінскай губерні. Скончыў Варшаўскі ветэрынарны інстытут (1903), з 1917 года член БСГ, удзельнічаў ва Усебеларускім з'ездзе. Пазней прызнаў Савецкую ўладу і тое, што толькі яна можа рэалізаваць беларускую дзяржаўнасць, працаваў у Інбелкульце (сёння Акадэмія навук), быў дацэнтам Беларускай сельгасакадэміі. У 1930-м яго арыштавалі і саслалі, з перапынкамі знявольваўся да 1943-га, пасля знік, як бясследна ў гулагах знікалі і іншыя. У 1988-89 гадах яго рэабілітавалі як ні ў чым не вінаватага, але ён усё роўна і без віны вінаваты, у цяні, у забыцці. А хто ж быў той, першы, прэм'ер? Варонка Язэп Якаўлевіч, 1891 г. н., з Сакольскага павета. Да 1914-га вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. З 1917-га ў БСГ. Удзельнічаў ва Усебеларускім з'ездзе. У снежні 1918-га — красавіку 1920 года нараджэння міністр беларускіх спраў і член кабінета міністраў Літвы, быў у іншых арганізацыях і суполках. У 1923-м выехаў у ЗША, дзе і дажыў да 1952-га, супрацоўнічаў з беларускай эміграцыяй, пісаў гістарычна-публіцыстычныя творы. Як і іншыя яго калегі па ўрадзе БНР, таксама ў нас забыты.

Злашчасная тэлеграма кайзеру раскалола БСГ і прывяла да крызісу БНР. Яе ўрады пачалі ператрасацца і мяняцца на чале з рознымі дзеячамі, але зноў жа справа была не толькі "бумажная": беларуская мова была абвешчаная дзяржаўнай, пачаліся захады для адкрыцця нацыянальных навучальных установ, запрацавалі некалькі соцень беларускіх школ і гімназій, адчыніліся Мінская вышэйшая музыкальная школа і Мінскі педагагічны інстытут, рыхтаваліся адкрыць універсітэт, з'явіліся выдавецтвы і беларускія газеты,

ажывіліся асяродкі культуры, а ўлетку ўжо мелі свае консульствы ў Літве і на Украіне, накіравалі дыпламатаў у іншыя краіны, пачалі выдаваць пашпарт БНР і ўзаконілі нацыянальныя сімвалы — герб "Пагоня" і бела-чырвона-белы сцяг (пазней БНР не прызнаюць ні Масква, ні Варшава, але гэта дэ-юрэ ці дэ-факта зробяць Літва, Латвія, Эстонія, Чэхаславакія, Балгарыя, Фінляндыя, Турцыя і іншыя дзяржавы, якія запрасілі да сябе беларускія дыпламатычныя і вайсковыя місіі, консульствы і прадстаўніцтвы).

У вышэйзгаданым спісе не названа Германія. Так, разам з пералічанымі. прызнае БНР і яна, але толькі не ў цяжкім 1918-м, калі ў яе руках была Беларусь і калі ў яе папрасілі, як і літоўцы, помачы хоць бы на дыпламатычным фронце, ставячы сябе пад ярасны агонь крытыкі, папрокаў і абвінавачванняў з розных бакоў. У 1918-м Германія не прызнала БНР. Прычын тут нямала. Можа, усё яшчэ добра не ўяўляла беларускай гісторыі ў перыяды Полацкай зямлі, Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Можа, асцерагалася Расіі. Можа, і быў пэўны пошапт германскага генштаба з Леніным. А можа, што стала вядома толькі нядаўна, Германія мела на ўвазе Беларусь у гульні з Савецкай Расіяй, прытрымліваючы наш край як заклад пад кантрыбуцыю, якую мелася выплаціць ёй РСФСР. Магло быць і яшчэ некалькі гэтых "можа". У 1918-м нямецкія ўлады самае вялікае толькі кінулі вока на Раду БНР як на пасрэдніка паміж імі і беларускім народам, дазволілі займацца гандлем, прамысловасцю, сацыяльнай апекай і, як адзначалася вышэй, асветай і культурай. Ды...

Пачакайце, весці прамысловасць, гандаль, аберагаць люд сацыяльна, ахарчоўваць яго і хоць часткова армію — хіба гэта простая рэч? Без вопыту, без казны, якую абакралі Мяснікоў і Доўбар-Мусніцкі, ды калі яшчэ ціснуў на карак цяжар першай сусветнай вайны — разбурэнні, вываз фабрык і заводаў, рабункі, зыход у бежанства і наборы на фронт соцень тысяч, рэзрух, запусценне вёсак?

Канечне ж, БНР тады, у кручаным 1918-м, за адзін год у самых што ні ёсць жудасных умовах было проста не пад сілу зрабіць шмат, ды ёй, бадай, удалося дабіцца самага галоўнага — паўстаць з попелу, сцвердзіцца і заявіць свету пра яшчэ адну дзяржаву — БЕЛАРУСЬ!!!

# Слова трэцяе. БССР

Да яшчэ нядаўняга часу вучні ў школах, студэнты ў вну завучвалі: БССР утварылася 1.1.1919 года ў выніку "мудрай ленінскай нацыянальнай палітыкі" і, адпаведна, "з таго часу бярэ пачатак беларуская дзяржаўнасць". Вось так узнікла на голым меецы — і ўсё! Шмат хто гэта прымае за ісціну і цяпер, не ведаючы ці не хочучы наўмысна прызнаваць: БССР — працяг, новы этап нашага адзяржаўлення.

Беларускія дзеячы ў Мінску ў 1918-м ва ўмовах нямецкай акупацыі, пазбавіўшыся ілюзій наконт ажыццяўлення на справе бальшавіцкай "Декларации" праў народаў, пайшлі на рызыку ўтварэння БНР пад нямецкім прыкрыццём. А што было рабіць сотням тысяч беларусаў, тым, хто бежанцам, а хто ў салдацкай форме апынуліся ў Расіі, хто ступіў ужо на савецкую платформу і намагаўся з Саветамі ўвасобіць сваю Бацькаўшчыну ў дзяржаву? Найперш трэба было дзейнічаць. І дзейнічалі. Ды за беларускімі дзеячамі як у Мінску, так і ў Петраградазе і Маскве быў не толькі пільны "дозор", але і прыцэл са Смаленска, дзе размясціліся мяснікоўцы, вялі паўкругавы абстрэл, не выпускаючы лёс беларускага краю са сваіх рук.

Ленін, савецкі ўрад добра разумелі, што не мяснікоўцам прадстаўляць Беларусь, але ў гэтай сітуацыі абралі двайную тактыку: з аднаго боку, пры сабе, пры камісарыяце па справах нацыянальнасцяў РСФСР пад кіраўніцтвам І.Сталіна ўтварылі аддзел — Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам), які пачаў займацца агітацыйна-палітычнай, культурна-асветнай, выдавецкай работай, а таксама па справе бежанцаў, супрацоўнічаў з беларускімі секцыямі РКП(б), а з другога боку, зусім не замінаді грызці беларускую справу як у Мінску, так і ў Расіі мяснікоўцам.

Недзе па май 1918-га, калі камісарам Белнацкама быў А.Чарвякоў, у асноўным вялася арганізацыйная праца — улік беларускіх суполак і ўстаноў, грамадзян, былі лекцыі, канцэрты, а затым яго работа начала пашырадца і паглыбляцца — адкрыццё беларускіх школ, падрыхтоўка да з'езда настаўнікаў-беларусаў, да Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі. Новы імпульс дзейнасці Белнацкама пачаў надаваць яго сакратар Зм. Жылуновіч (Цішка Гартны) — рабочы, з 1902 года член капыльскай арганізацыі РСДРП, удзельнік рэвалюцыі 1905-1907 гадоў, удзельнік беларускіх з'ездаў 1917-га ў Мінску, паэт, цяпер бальшавік, рэдактар газеты "Дзянніца", што з 1 сакавіка 1918 года стала першай беларускай савецкай газетай.

Пра савецкасць Белнацкама, "Дзянніцы" сведчыць тое, што яны асудзілі БНР, за што, у сваю чаргу, некаторыя беларускія дзеячы ў Мінску, паўторым, асуджалі Зм.Жылуновіча "за прадажніцтва бальшавікам і за здраду беларускай справе", а таксама і тое, што на з'ездзе настаўнікаў-беларусаў папрасілі зрабіць даклад Н. Крупскую, а на ліпеньскі Усерасійскі з'езд бежанцаў з Беларусі запрасілі самога Леніна (той падзякаваў за запрашэнне, зацікавіўся яго работай, але калі даведаўся, што з'езд ідзе на беларускай мове і на ім моцныя нацыянальныя пачуцці, вылучаецца ідэя ўтварэння Беларускай

Савецкай Рэепублікі (у складзе РСФСР), інтарэс да з'езда страціў. Аднак Белнацкаму жыццёва неабходна было яшчэ больш актывізавацца, бо ў паветры запахла новымі пераменамі: 27 жніўня РСФСР і Германія падпісалі Дадатковую дамову, па якой Савецкі ўрад падмеўся выплачваць Германіі грашовую кампенеацыю за тое, што яна будзе пакідаць захопленыя землі (значыць, Беларусь для абодвух бакоў была ўсяго толькі разменнай манетаю), а да ўсяго ў Германіі таксама нагрэлася рэвалюцыйная сітуацыя, таму яе войскі былі патрэбныя больш ужо там, чым тут. Адчувалася: рана-позна яны і сыдуць.

Чым болей плённа дзейнічаў Белнацкам, тым цяжэй яму было, асабліва ад мясніковіцаў. Тыя мала таго, што адмовіліся выдаваць хоць адну беларускамоўную газету ("Рунь", як іх прасілі), дык ужо ў кастрычніку адтуль, скажам, са старонак іхняй "Звезды" па-ранейшаму пагардліва, абразліва і варожа гучала, да слова, з вуснаў сакратара Паўночна-заходняга абласнога камітэта РКП(б) Кнорына: "Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты. Нашей задачей является не создание новых наций, а **уничтожение** (падкрэслена мной, як адно з любімых слоў мясніковіцаў. — Г.Д.) старых национальных рогаток. Белорусское же движение является таким воздвижением новых национальных рогаток, не существовавших до сих пор, а поэтому коммунисты не могут в каком бы то ни было случае принимать участие в этом движении". Мала таго, што зневажалася Беларусь, бачылася ўсяго толькі як Заходняя камуна ці вобласць, дык яшчэ быў замах і на Літву.

Такое хамства не магло не біць па сэрцы і камуністу Жылуновічу, ён раз-пораз прасіцца на прыём да Сталіна: што ж гэта такое, Іосіф Вісарыёнавіч, гэта ж нахабства не толькі супраць нас, беларусаў, але і супраць дэкларацый Савецкай улады, супраць 11-га пункта Канстытуцыі! Той ці пасміхаецца, закапыльваючы вока ад дыму з люлькі, ці мармыча штосьці невыразнае, нават па-чалавечы недалюбліваючы: рабочы, а, бач, які заўсёды чысценькі і акуратненькі,

на ролю лідэра нацыі пасягае! Жылуновіч ва-ўсю спажывае "Дзянніцу", часамі таксама стрэламі адказваючы на стрэлы мяснікоўцаў: вы ж вяртаеце дарэвалюцыйныя, царскія парадкі! Заадно ў гэтых умовах намагаецца хоць бы тут, у Маскве, сабраць у адну арганізацыю ўсе разрозненыя беларускія камуністычныя суполкі, каб дзейнічаць сумесна, больш мэтанакіравана.

3-га лістапада ён здолее склікаць такі сход, дзе будуць камуністы і з акупаванага Мінска (у іхніх шэрагах было больш як 4000 падпольшчыкаў, частка якіх не цалкам падтрымлівала мяснікоўцаў, шукала сувязяў з Белнацкамам, з беларускімі камуністычнымі суполкамі ў Расіі). На сходзе абмяркуюць становішча, асудзяць БНР, падтрымаюць ідэю Савецкай Беларусі і звернуцца да Прэсненскага райкама РКП(б), каб той зарэгістраваў іхнюю камуністычную секцыю. Улічваючы высокі аўтарытэт Жылуновіча, яму даручаць узначаліць яе.

Мяснікоўцы наступаюць юрыдычна — скарыстаўшы адзін з пунктаў Канстытуцыі (16-ы) пра свабоду арганізацыі і аб'яднання працоўных, праз народны камісарыят унутраных спраў РСФСР спяшаюцца ўзаконіць сваю ідэю: Беларусь і Літву мець за падуладную ім Заходнюю камуну, маўляў, насуперак Радзе БНР у Мінску і Тарыбе ў Вільні. Мяснікоўцы яшчэ болей натхняюцца, паціраюць рукі: як пазней стане вядома, адміністрацыйная камісія ВЦВК на чале з Я.Свярдловым пачала распрацоўваць праект, па якім Савецкая Расія павінна складацца не з нацыянальных рэспублік, а з эканамічных рэгіёнаў: Маскоўскі, Паўночны, Заходні, Уральскі і г.д.

6 лістапада пачаўся IV Усерасійскі Надзвычайны з'езд Саветаў. На ім шмат што вырашалася важнае. Але галоўнае было тое, што, прачуваючы выбух рэвалюцыі ў Германіі, анулявалі Брэсцкі дагавор, Чырвоная Армія (а з ёю і сфармаваныя беларускія часці) хутка павінны былі рушыць на Беларусь. Людзі Жылуновіча паспрабавалі перамовіцца з Мясніковым, каб хоць нарэшце паразумецца ў асноўным, пра лёс Беларусі, але той праігнараваў іх. Маўляў, з вамі ўсё ясна, вы будзеце Заходняй вобласцю РСФСР. Абласныя органы ўлады ўжо даўно сфармаваныя.

Занепакоеныя пытанні са шматлікіх лістоў беларускіх бежанцаў у "Дзянніцу" яшчэ больш змушаюць Жылуновіча пытаць у Савецкага ўрада: што з Беларуссю? "Увесь час, са дня расейскай рэвалюцыі, — будзе пісаць ён, — беларускае пытанне нядбайна прапушчаецца між пальцаў... баяцца дакрануцца да яго і знарочыста ці забыўна адварочваюцца і ад думкі, той, што ёсцека Беларусь... Усе патугі звярнуць на гэта ўвагу каго належыць (ківок Сталіну? — Г.Д.) разбіваюцца ў дробкі... чым далей, тым болей расце такая сумыслая варожасць да яго

ў кіруючых колах", "ніякіх крокаў, к таму ж т.т. з Заходняе Камуны — з Беларусьсю чаўпецца нешта сапраўды страшнае, а грозіць ёй яшчэ страшнейшае..."

Жылуновіч перасцерагае: як толькі Беларусь пакінуць немцы, заручыўшыся міжнароднай падтрымкаю, правы на яе прад'явяць польскія шавіністычныя колы. "І праз гэткія парадкі, — б'е ў звон, — дзесяцімільённы беларускі народ можа быць ахвяраваным на падмацаванне буржуазіі, на шкоду Расейскай Рэвалюцыі. Якімі ж вачыма мы тады, дачакаўшыся гэтага, паглядзім у вочы гарацешнаму беларуекаму працаўніку? Што ён з нашай часткаю віны, падняпадшы ў прыгон, скажа нам? Пэўна — не падзякуе!" Гэтая перасцярога "беларуса-камуніста", пакажа час, не была надуманая, нават ужо з-за таго, што "народны" ўрад Польшчы, "начальнік дзяржавы" Ю.Пілсудскі і "паляк з беларускім сэрцам" Доўбар-Мусніцкі запратэставалі супраць прыходу Чырвонай Арміі на Беларусь, а самі захапілі Брэст, падышлі да Баранавічаў, — гатовы былі рушыць ажно да Смаленска, г.зн. па межы Рэчы Паспалітай 1772 года...

Ну, а што БНР у Мінску? Пры ўсіх цяжкасцях, крызісах, ператрусках яна не толькі ацалела, але і працягвала амацоўвацца, у тым ліку і заканадаўча. 11.10.1918-га яе Рада зацвердзіла ўжо Часовую Канстытуцыю. Але прачуваючы, а пасля і бачачы эвакуацыю дэмаралізаваных ад зацяжной вайны і паражэння на Заходнім фронце нямецкіх войск, новы яе ўрад на чале з А.Луцкевічам не мог не бачыць небяспекі як ад асмялелых і завідушчых на "ўсходнія крэсы" польскіх легіёнаў, так і ад Чырвонай Арміі, мяснікоўцаў, якія прагнулі рэваншу, а то і рыўка ў Еўропу. Каб захаваць БНР, якая к гэтаму часу набыла ўсе рысы беларускай дзяржавы (пад яе крыло пагарнуліся нацыянальныя меншасці, многія палітычныя партыі), А.Луцкевіч патайна прабіраецца ў Маскву, перамаўляецца з Ц.Гартным, і ёсць ускосныя звесткі, што праз таго мае сустрэчу з Леніным, дзе прапануе кампраміс: мы — з Расіяй, мы прызнаем Савецкую канстытуцыю, а вы прызнайце БНР.

Гэтую прапанову адхілілі. У бальшавікоў быў свой, толькі ім патрэбны і выгадны варыянт.

Напружанне вакол лёсу Беларусі нарастаў. 25 лістапада "Дзянніца" змяшчае "Ліст да Беларускага народу", праз які "твой сын Змітро" — Жылуновіч — заклікае ўвесь родны люд і ў гэты цяжкі, лёсаносны час праявіць цвярозасць, вытрымку, не паддавацца на розныя шматабяцанкі чужых і сваіх паноў, чакаць падмогі ад Расіі — праўда, у "Лісце" зазначаецца, што помач будзе не проста ад Расіі, а ад новай Расіі, якую цяпер, зразумела, прадстаўлялі бальшавікі і Саветы.

У снежні, калі немцы, а з імі і бэнээраўцы пачалі пакаваць валізы і клункі, у Мінску падпольны раённы камітэт РКП(б) утварае свае падпольныя органы ўлады — Мінскі Савет і губрэўкам, што было своеасаблівай альтэрнатывай мяснікоўцам, а з другога боку, гатоўнасцю супрацоўнічаць з Жылуновічам (ад яго былі тут пасланцы). У гэтай сувязі неабходна падкрэсліць адзін вельмі важны момант: амаль усе, хто ўтвараў і БНР, і БССР, былі разагнаныя (выжыў той, хто выбраўся за мяжу), а пры сталінізме знішчаныя. З уплывовых сведак тых падзей нейкім чынам ацалеў менавіта тагачасны лідэр вышэйназванага падпольнага Мінскага раённага камітэта РКП(б). Пад псеўданімам Бампі ён жыў (за межамі Беларусі) яшчэ ў 50-я гады, займаўся навукай, пісаў успаміны. На жаль, я не чытаў іх, дык не ведаю, наколькі яны шчырыя. А той Бампі мог падрабязна расказаць, скажам, пра тое, як ён і ягоныя калегі дзейнічалі, як слалі тэлеграмы "о необходимом самоопределении трудящихся Белоруссии и Литвы, создании Белорусско-Литовской трудовой коммуны на федеративной связи с Советроссией", чым літаральна разлютавалі Мяснікова, які сваёй тэлеграмай Свярдлову думку мінскіх "местных работников" "о так называемой Белоруссии" лічыў усяго толькі "частным мнением", а крыху пазней, 21 снежня,у смаленскай "Западной коммуне" загучыць абурэнне ўжо супраць Масквы: "Спрашивается, зачем эта игра в советские республики?.. Провозглашение Советской республики Белоруссии не только не служило бы интересам борьбы с националистическими тенденциями мелкой буржуазии, но как раз развивало бы простор этим тенденциям... То, что мы признаем допустимым в одном месте в силу тактических соображений, не должно быть перенесено в другие места, где таковых практических соображений нет и не может быть..."

Мяснікоў даціскае — ВЦВК зацвярджае вывады Адміністрацыйнай камісcіі, і Беларусь юрыдычна становіцца Заходняй вобласцю. Жылуновіч — а ён ужо і камісар Белнацкама — выказвае Сталіну, іншым рашучы пратэст гэтай пастанове і заяўляе, што пры такіх адносінах да Беларусі не можа далей быць пры Савецкім урадзе, па згодзе беларускіх камуністычных секцый дае кліч: "Беларусы — дахаты!", заклікае там, дома, разам з мясцовымі камуністамі, свядомымі людзьмі самім утварыць урад. Сталін тут жа паведаміць пра гэты "ультыматум" ці "шантаж" Свярдлову, той — Леніну. Хто ведае, якія былі тыя размовы, але 25 снежня кіруючае ядро Белнацкама і ЦБ беларускіх камуністычных секцый запросяць да Сталіна, і той, паінтрыгаваўшы, суцешыў: будзе вам Савецкая Беларусь, і дэманстратыўна ўзяўся "обуздывать товарища Мясникова, который, как и

некоторые другие большевики-нацмены ведут себя порой неадекватно". Мяснікоў, зразумела, не плешча ў ладкі ад такога павароту, не хоча ехаць у Маскву ды яшчэ на перамовы з ненавісным яму Белнацкамам, спасылаецца, што ён рыхтуе на канец снежня 6-ю Паўночна-Заходнюю абласную канферэнцыю РКП(б), чуць не хоча ні пра якую Беларусь. Сталін гуляе: калі хочаш, каб цябе беларусы "приняли", то едзь, "а они, считаем мы, не откажутся от нужных, авторитетных людей из твоего обкома и Облисполкомзапа... Короче, рекомендуй *своих толковых* людей в Компартию и правительство Белоруссии... Об *остальном* поговорим здесь..." (Выдзеленыя словы і словы ў двукоссі з майго рамана "Свой дом". Яны — на аснове вывучэння мноства мемуараў. - Г.Д.).

Мяснікоў мусіць падпарадкавацца, весці перамовы з Белнацкамам, са Сталіным, а затым разам з іншымі быць на сустрэчы з Леніным. Наўрад ці ёсць стэнаграмы тых, канечне ж, напружаных размоў-перамоў, а калі былі, то наўрад ці мелі да іх доступ нашы гісторыкі, але ў рэшце рэшт вырашана: Беларусі быць! Нават сённяшнія нашы камуністы не прамінаюць дадаць да гонару сваёй партыі: каб не Кастрычніцкая рэвалюцыя, не Ленін (а раней і Сталін), не Камуністычная партыя, то ніякай Беларусі не было б і ў паміне! Так то яно так, але колькі было высілкаў, нерваў, сілы волі і духу, а пазней колькі пральецца слёз і крыві за тое, што ўдалося вырваць з зубоў нашу Беларусь!!! А ўдалося найхутчэй таму, што бальшавікі не столькі прыслухаліся да Белнацкама, увогуле да "чаяний" усяго беларускага народа, колькі. пагадзіліся з тым пунктам Жылуновіча, што Беларусі пагражае белапольская акупацыя, дык лепш няхай яна пад уладай Саветаў стане буферам паміж буржуазнай Польшчай і Савецкай Расіяй. Тым не менш Жылуновіч нарэшце акрыляецца і разам з аднадумцамі натхнёна складае спіс тых, хто на роўнасных пачатках з мяснікоўцамі можа ўвайсці ў Камуністычную партыю і ўрад Савецкай Беларусі, сам піша "Маніхвэст". (Калі Сталін прачытае яго, то заўважыць: "А белорусский язык вполне самостоятельный!") Слоў няма, ёсць чаго ўзбадзёрыцца дзядзьку Змітеру: збываецца шматвекавая мара лепшых сыноў беларускага народа і ажыццявіць, увасобіць яе ў жыццё выпала шчасце яму! Недарэмна столькі і. ўсюды карпеў, шукаў выйсця, мяняў паводзіны, але ў галоўным стаяў на сваім! Ёсць цяпер з чым вярнуцца дамоў, адкрыта зірнуць землякам у вочы!

Не ведаю, ці насцярожыла тады Жылуновіча тое, што з прапановамі Сталін яго і Мяснікова прымаў паасобку. Як і невядомы, скажам, змест гутарак Сталіна і Мяснікова. А пра што і як гаварыў Сталін з Жылуновічам і яго паплечнікамі, як падаграваў іхнюю радасць

і адначасова ўсыпляў іхнюю пільнасць, можна кал і не адкрыта, то "паміж радкоў" вычытаць у пазнейшых успамінах Жылуновіча і Язэпа Дылы. Дык вось, здаецца, Сталін вельмі спакойна выслухаў даклад, прапановы Жылуновіча, абмежаваўся нязначнымі пытаннямі пра прэтэндэнтаў на "міністэрскія" пасады і заўвагамі (да слова, зацікавіўся, чаму ў сваім урадзе яны не хочуць бачыць Мяснікова, Калмановіча, Кнорына і інпіых "видных революционеров"), а тады пазнаёміў з умовамі цэнтра па ўтварэнні Кампартыі, урада Савецкай Беларусі (гэта паўзабыты ўжо, але апублікаваны дакумент): 1) Урад Беларускай рэспублікі складаецца са старшыні і 15 членаў урада, 2) Для бягучых спраў будзе прэзідыум з трох асоб: старшыні ўрада і двух членаў з яго; 3) У склад рэспублікі ўваходзяць губерні — Гродзенская, Мінская, Магілёўская, Віцебская і Смаленская (апошняя спрэчна, як рошаць мясцовыя таварышы); 4) Абласны камітэт партыі Паўночна-Заходняй вобласціператвараецца ў Цэнтральнае бюро КП (б) Беларусі; 5) Старшыня ЦБ партыі павінен быць прадстаўніком ЦК партыі і ўрада; 6) Правы ЦБ партыі і аддзелаў урада застаюцца такімі ж, як у былога Абласнога камітэта і Аблвыканкамзаха.

Канечне ж, не ўсё ў гэтых *фактычна ультыматыўных умовах* спадабалася Жылуновічу, ды ён, грэючы сэрцам *беларускія савецкія дзяржаўныя дакументы*, разам з сябрамі з радасцю і вялікім хваляваннем едзе з Масквы ў Смаленск.

Чуў, што ў свой час у вузкім коле літаратараў і гісторыкаў хадзілі чуткі ад тых, хто тады знаходзіўся ў Смаленску (а там былі Янка Купала, М.Гарэцкі і іншыя), што мяснікоўцы нібыта па абмылцы вайсковага каравула на вакзале прытрымлівалі Жылуновіча, каб ён своечасова не трапіў на партканферэнцыю, не парушыў сталінска-мяснікоўскі план. Трапіў. Да 170 ці больш дэлегатаў, сярод якіх не менш 150 — мяснікоўцы.

Што дзіўна: здавалася б, такі важны для бальшавікоў козыр, як утварэнне пад іх эгідай савецкай рэспублікі. Ну, як тут не быць стэнаграме з такога форума?! Можа, яна і была ці ёсць. Але зноў жа — усе весткі ў асноўным па газетных публікацыях, па ўспамінах, дзе сярод недагаворак ці хлуслівага смецця "зерне" трэба выгортваць у падтэксце.

З'езд адкрыў Мяснікоў і даволі ў жалобным тоне, разводзячы рукамі: маўляў, трэба падпарадкавацца волі ЦК РКП(б), каб мы сёння нашу Заходнюю вобласць абвясцілі Беларускай Савецкай Рэспублікай (з першых яго такіх слоў крыкамі запярэчылі камуністы з Віцебска, але па ўзмаху рукі Мяснікова супакоіліся, а пасля некаторыя і падпарадкаваліся "воли партии"). Пасля абвяшчэння "дадзеную" цэнтрам

тэрыторыю падзялілі на 7 раёнаў і 53 падраёны. Пасля іншых працэдур Мяснікоў зачытаў свой спіс Цэнтральнага Бюро — вышэйшага партыйнага органа ў рэспубліцы.

Жылуновічу не магло не пацямнець уваччу, як і не магла не шухнуць кроў у скроні: здаецца, з 15 членаў туды ад беларускіх камсекцый трапляе толькі двое! Ён і Лагун. Гэта — такая, на думку Сталіна і Мяснікова, роўнасць?! Цяпер яму зусім іначай успрыняўся сталінскі званок у іхняй прысутнасці ў Смаленск Мяснікову: "рекомендуй своих толковых людей... Об остальном поговорим здесь". А Мяснікоў ужо не толькі супакоіўся, але і павесялеў, ды зларадна: у складзе Прэзідыума ЦК КП(б)Б трое і ніводнага з асяроддзя Жылуновіча: Мяснікоў — старшыня, Калмановіч — намеснік, Кнорын — сакратар. Ён, Мяснікоў, станавіўся, згодна "Умоў", прадстаўніком ЦК РКП(б)!

Жылуновіч сабраў сілы, волю і запратэставаў: у яго спісе, узгодненым са Сталіным, больш прадстаўнікоў ад беларускіх камсекцый і склад Прэзідыума іншы! Мяснікоў, усміхаючыся пераможна, паказаў свой спіс, дзе менавіта ўсё так. Зразумела, большасць дэлегатаў падтрымала яго, Мяснікова, ды яшэ авацыяй: іхняе ж бярэ!

З цяжкай душой мусіў ісці Жылуновіч на першае пасяджэнне ЦБ. Няма сумнення, там яго рэкамендуюць старшынёй урада, але якой будзе тая пасада? Аперэтачнай. У лада, сувязь з цэнтрам будзе ў мяснікоўцаў. Ды гэта былі кветкачкі, ягадкі чакалі яго на ЦБ, куды ўсё ж пайсці ўгаварылі сябры. Пайсці на саюз з д'ябламі. Дзеля яе, Беларусі.

Ведучы ЦБ, Мяснікоў аб'явіў, што ён з Масквой прыйшоў да згоды, што ва ўрадзе патрэбны 17 наркамаў. Старшыня — Жылуновіч. Рэкамендавалі. Яго віншавалі, паціскалі руку, але ў вачах мала пасвятлела, а ў вушах стаяў звон: непакоіўся, што будзе далей. А далей ва ўрад параілі 7 яго чалавек. Нібы і нямала — 10 і 7, не так ужо і далека ад роўнасці. Але мяснікоўскія дзесяцера і яго сямёра зусім не на тых пасадах, якія ён узгадніў са Сталіным! Яго людзям другія і трэція ролі, першыя ў мяснікоўцаў — наркамы земляробства, дзяржаўнага кантролю, унутраных спраў, харчавання, ваенных спраў, поштаў і тэлеграфаў, фінансаў, шляхоў зносін, старшыня Саўнаргаеа. У Прэзідыуме ўрада трое: ён, Мяснікоў і Калмановіч. Кіраўніком спраў урада — Кнорын. Друкаваны орган — нядаўняя смаленская газета "Известия", толькі цяпер яна будзе называцца крыху іначай і будзе на чатырох мовах.

О, Божа! Які падман! Ягонымі рукамі нібыта на законнай аснове ўручылі ўладу лютым ворагам Беларусі! Ён ускіпеў: вывесці з урада

Мяснікова (наркама па ваенных справах), Калмановіча (наркама харчавання) і Пікеля (старшыню Саўнаргаса), якія сканцэнтруюць усю ўладу ў сваіх руках і не дадуць яму ніякага разгарнення! А заадно запатрабаваў: урад не залежыць ад ЦБ! Іначай ён адмовіцца аддаць для абнародавання "Маніхвэст" пра ўтварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі! Мяснікоўцы не згадзіліся; Жылуновіч пакінуў пасяджэнне ЦБ.

У Смаленску і Маскве ажно чырванелі ад гарачыні тэлеграфныя апараты: Мяснікоў — са скаргай на Жылуновіча Сталіну; Сталін — са сваімі парадамі яму; Жылуновіч — з крыўдай, папрокамі Сталіну; Сталін — з угаворамі, з пагрозамі Жылуновічу..: Калі сталінскае "не деритесь, а то будет плохо" не спрацавала таксама, то Сталін меўся прыехаць і сам ва ўсім "разабрацца". Разабрацца ў тым, што падрыхтаваў з Мясніковым і што ішло па іхнім сцэнарыі. Але не прыехаў ні ў Смаленск, ні ў Мінск. Жылуновіч мусіў здацца, усё дзеля яе, Беларусі, аддаў пераможцам "Маніхфэст", скарыўшыся, што "Белорусское правительство получает директивы непосредственно от ЦеКа партии через Мясникова как представителя последнего..."

Зм. Жылуновіч пабыў старшынёй Часовага рэвалюцыйнага ўрада Савецкай Беларусі з месяц, у тых цяжкіх умовах ды пад кантролем Мяснікова не мог шмат чаго зрабіць. Але важнае, нават гістарычнае іншае: у сцверджаннях як БНР, так і БСР былі БР — Беларуская Рэспубліка; БСР праіснавала нядоўга, да 27 лютага 1919 года, да ўсяго ва ўсечаным аб'ёме, бо на І Усебеларускім з'ездзе Саветаў мяснікоўцы Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні перадалі РСФСР; 27 лютага абрэзкі Беларусі па загадзе ЦК РКП(б) штучна злілі з Літвой і ўтварылі Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку са сталіцай у Вільні і на чале з В.Міцкевічам-Капсукасам. Другі раз БССР абвясцілі 31 ліпеня 1920-га ў Мінску. Але з якім фарсам, здзекам! Новая БССР складалася з... шасці паветаў Мінскай губерні!!! А ў 1921-м на перамовах з палякамі ў Рызе нікога з беларусаў туды не дапусцяць, а Заходняй Беларуссю адкупяцца!!! Мабыць, толькі з аднымі беларусамі можна паводзіцца вось так! Добрыя, цярплівыя, непатрабавальныя, усё сцерпяць!

Яшчэ раз ведайма пакутлівы, жудасны лёс амаль усіх, хто ўтвараў і БНР, і БССР: за вельмі рэдкім выключэннем, амаль усіх спачатку зганьбілі, зрабілі ворагамі сваіх жа дзядоў і бацькоў, свайго народа, а затым перастралялі. Мяснікоўцаў — у тым ліку. Зм. Жылуновіча — першага старшыню беларускага савецкага ўрада — зневажалі, білі так, што ён па-чалавечы не вытрываў маральных, фізічных здзекаў і звар'яцеў. Звар'яцелага, яго, мабыць, па-садысцку забілі.

**БР...** Вось як давалася яна нам у 1917-1921- я гады і вось якая вялікая, наскрозь набрынялая крывёю была за яе плата. Зразумела, тыя лепшыя сыны нашага народа дзеля яе, Бацькаўшчыны, пайшлі на пакуты, а то, як і Хрыстос, на крыж. Хрыстос стаў прарокам, настаўнікам, заснавальнікам новага сусветнага вучэння. А нашы пакутнікі-настаўнікі, заснавальнікі нашай дзяржавы? Хоць крыху ведаем мы іх, шануем?

**БНР...** Хто так ці гэтак заявіў яе, аддаў сваё маладое жыццё за святую справу, былі: А.Аўсянік, П.Бадунова, А.Бурбіс, Я.Варонка, З.Верас, А.Гарун, Т.Грыб, К.Езавітаў, В.Захарка, Ус.Ігнатоўскі, П.Крашэўскі, Я.Мамонька, В.Ластоўскі, Я.Лёсік, браты Луцкевічы, С.Рак- Міхайлоўскі, А.Смоліч, І.Серада, Б.Тарашкевіч, А.Цвікевіч, У.Фальскі і яшчэ тысячы-тысячы іншых. З іх, амаль усіх рэабілітаваных у 50-я і 90-я (праўда, было і такое: рэабілітоўвалі, але пра гэта маўчалі, каб і далей імя было пад забаронаю), толькі лічаныя ўпамінаюцца ў энцыклапедыях і падручніках; помнікаў, назваў вуліц у іхні гонар асабіста я не ведаю.

**БССР...** Вялікі, вельмі вялікі спіс пакутнікаў, ахвяр і за яе. У 50-я аднавілі добрае імя некаторых з іх, найбольш ушанавалі А.Чарвя- кова (назвай вуліцы ў Мінску, выбраным артыкулаў і прамоў, успамінамі пра яго); Зм.Жылуновіча доўга прызнавалі толькі як пісьменніка Цішку Гартнага, як палітычнага і дзяржаўнага дзеяча поўнасцю рэабілітавалі... толькі ў 90-я і ягоным імем таксама назвалі вуліцу... на мінскай ускраіне і паставілі сціплы помнік на радзіме.

Зм. Жылуновіч і А. Чарвякоў — бясспрэчна, буйныя асобы, без іхняга аўтарытэту, без іхняй кіпучай дзейнасці было б нялёгка дабіцца БССР, але і ім адным гэта было б не па сіле, за імі былі Белнацкам, беларускія камуністычныя секцыі, розныя грамадскія і культурна-асветныя суполкі з дзесяткамі тысяч актывістаў, з сотнямі тысяч спачуваючых.

Сёння нямногія могуць ясна і выразна сказаць, хто такія і Жылуновіч, і Чарвякоў, а пра тых маладых, адукаваных, шчырых і сумленных, што памаглі ім здзейсніць патрыятычны подзвіг, бадай, мала хто ўвогуле што чуў. А яны ж дбалі пра нас, за што іх дачасна звялі ў магілу альбо як бяспраўных рабоў нелітасціва мучылі ў лагерах. Гэта — Балбека (на жаль, і я не ведаю імён некаторых), Баркоўскі, Бяганскі, Дзедзя, Я.Дыла (загадчык мануфактурнага аддзела Цэнтрсаюза, рэкамендаваўся Жылуновічам на пасаду наркама фінансаў), М.Драка-Дракон (паліткамісар 1-га Поладкага беларускага савецкага палка, рэкамендаваўся наркамам па ваенных справах), Жукоўскі, І.Зыбко (яго альбо Найдзёнава з мяснікоўскіх шэрагаў бачылі на пасадзе

наркама дзяржкантролю, але Мяснікоў зажадаў мець для сябе больш надзейнага), А. Квачанюк (ад мінскай беларускай секцыі РКП(б), рэкамендаваўся на пасаду наркама замежных спраў), Клыш, Крыцкі, Я.Лагун (адзін з бліжэйшых паплечнікаў Жылуновіча і відных дзеячаў Белнацкама, рэкамендаваўся на пасаду наркама ўнутраных спраў, дзядзька адной нашай пісьменніцы, але яна па нейкіх прычынах рашуча адмовілася даць пра яго якія-небудзь звесткі: "Пішыце тое, што ведаеце"), І.Мазур (мой зямляк па Стаўбцоўшчыне, сакратар Белнацкама, рэкамендаваўся на пасаду наркама земляробства. Яго сын-выкладчык спадабаўся мне, але, на вялікі жаль, мала што мог расказаць пра бацьку, яго сяброў і іхнія добрыя справы ў маладосці: быў яшчэ малы ў 30-я, калі бацьку "схапілі". Помніць сам ды з матчыных аповедаў, што ў іх былі і А. Чарвякоў, і Зм. Жылуновіч, і зямляк Якуб Колас (ён, Колас, пэўны час нават даваў ім і прытулак у сваім доме), былі і іншыя і вялі сур'ёзныя, цёплыя, а часамі і занепакоеныя размовы пра. трагедыю беларускай нацыі), Макарэвіч, Я.Нёманскі (разам з Жылуновічам рэдагаваў "Дзянніцу", да 1937-га пісьменнік, акадэмік, нейкі час быў намеснікам старшыні Дзяржплана БССР), І.Няцэцкі, Ю.Памецкі (Памейка?), Пратакоўскі, І.Пузыроў (быў адзін з лідэраў РКП(б) у Тамбове, рэкамендаваўся на пасаду наркама працы), Русецкі, Я.Рыбак (механік маскоўскага галоўпаштамта, рэкамендаваўся на пасаду наркама поштаў і тэлеграфаў), Свуніц, Салтанаў, У.Скарынка, А.Усціловіч (той, хто разам з Жылуновічам, Чарвяковым вёў цяжкія, гнятлівыя перамовы з Мясніковым і Сталіным, захоўваючы жалезную вытрымку), У.Фальскі (актор, спрыяў справе БНР, рэкамендаваўся на пасаду наркама сацыяльнага забеспячэння і аховы здароўя), В.Ханін, Хрэнаў, Зм.Чарнушэвіч, Ф.Шантыр (чарвонаармеец, не раз і не два па-хамску прыніжаны Мясніковым, рэкамендаваўся на пасаду наркама юстыцыі, быў камісарам па нацыянальных справах, пісаў прозу, "памёр" яшчэ ў 1920 годзе)... Магу назваць яшчэ дзесяткі прозвішчаў, а іх, паўтару, маладых, адукаваных, здольных, таленавітых, шчырых, сумленных, верных сыноў беларускага народа, было дзесяткі тысяч, як і было сотні тысяч спачуваючых!

Хочаш ці не хочаш, але трэба прызнаць: люта ненавідзячы і бэсцячы БНР, усімі д'ябальскімі сіламі супраціўляючыся, каб не было і БССР, ды ўсё ж па загадзе мусячы сцвярджаць БР — Беларускую Рэспубліку, — бралі ўдзел у беларускай справе і мяснікоўцы. Я не хачу, болей за тое — мне прыкра пералічваць іхнія імёны, хоць як літаратар з гістарычным ухілам павінен быць аб'ектыўны. Прабачце, але вялікая неаб'ектыўнасць у тым, што мяснікоўцы, якія з 1917-га закладвалі ў нас свае ідэі, сваё вяршынства, нецярпімасць да іншых думак і

поглядаў, дэмагогію, фальш, хлусню, фальсіфікацыю, тэрор і, яшчэ, яшчэ, яшчэ раз паўторым, дзіка-пячэрную нянавісць да ўсяго беларускага, — во жах: у нас, ва ўсіх нашых гарадах і вёсках ушанаваныя як героі. Таксама няшчасныя (знішчаныя ў 30-я), тым не менш яны з таго свету нахабна паказваюць кожны дзень, кожную хвіліну нам хвігі, красуючыся з шыльдаў, назваў і з розных кніг-брашур і па-ранейшаму бессаромна, груба, па-сатанінску насміхаючыся з нас, даверлівых і ўгодлівых. Тыя ж, хто любіў родны край, яго мову і культуру, дбаў пра ўвесь наш народ, плачуць з магіл: мы аддалі за вас самае каштоўнае — сваё жыццё і жыццё нашых самых блізкіх, а вы!.. Эх, вы!.. Дзе ваша гістарычная памяць, нацыянальная і чалавечая годнасць?! Няўжо назваць вас, жывых, нібыта людзей, таўкачамі з таўкачоў у свеце?!

Неабальшавікі, у першую чаргу неамяснікоўцы, бывае, і цяпер казыраюць: усе мы выйшлі з 1919-га! Нядобра, але паколькі мне і ў сне не даюць спакою тыя беларусы, героі маіх раманаў, мушу закончыць сваю гаворку на горкай ноце: так, у XX стагоддзі мы выйшлі з 1917-га, але не далека, мы застылі ў ім...

*2000-2001*